# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №33 (154) 6 СЬНЕЖНЯ 1999 г.


## Бура над усёй Эўропай

Паўночнаю Эўропаю пралецела бура. У Швэцыі, Даніі, Нямеччыне і Нарвэгіі загінулі ня менш за 15 чалавек. Польскае ўзьбярэжжа і Пецярбург заліло. У Літве сьмерць напаткала двух, на аднаго зь іх, дзіцёнка, зваліўся з хаты комін. У Беларусі без электрычнасьці засталіся 1260 вёсак і мястэчак — добрая вобласьць. Нават на сталінскіх дамах на Прывакзальнай плошчы ў Менску шарпала бляху, і міліцыянты мусілі перакрыць на пэўны час рух па тратуарах. Кажуць, гэта была самая моцная і працяглая бура за сто гадоў.

## Грыб стварыў рух

120 дэлегатаў стварылі ў Менску «Рух за дэмакратычныя і свабодныя выбары». На сходзе выступілі Тацяна Процька, Мікалай Пліско, Алег Трусаў, Алесь Абрамовіч. Хочуць кантраляваць выбары ў наступным годзе, каб сумленна праводзіліся, будуць рыхтаваць назіральнікаў на іх.

Б.Т.

## Талёны на масла

У Клімавічах увялі талёны на масла. Прадукцыю мясцовага масласырзаводу адпраўляюць зьбольшага ў Магілёў і ў Менск.

## Лужкову далі 7 гадоў з канфіскацыяй

36-гадовага магілёўца Лужкова асудзілі за гандлёвыя махінацыі. Ён атрымліваў па падробных дакумэнтах харчовыя тавары, масла, яечны парашок, муку і прадаваў у Расеі. А грошай прадпрыемствам не вяртаў альбо зусім, альбо аддаваў ня ўсё. Тым ня менш, яму ўдавалася заключаць усё новыя і новыя дамовы з магілёўскімі прадпрыемствамі цягам 3 гадоў. Але да пары штука ўдаецца.

З Магілёва — Сымон Глазштэйн




Фота IREX-ProMedia

*Юлія Чыгір нястомна змагалася за вызваленьне свайго мужа*

Былы прэм'ер-міністар і кандыдат у прэзыдэнты Беларусі Міхал Чыгір на свабодзе. Журналісты з замілаваньнем лічаць ягоныя першыя пасьля адседкі чаркі. Зрэшты, і адседкаю тыя 8 месяцаў зьняволеньня не назавеш — прысуду ды нат абвінавачваньня сапраўднага не было. Проста ізалявалі ад грамадзтва. Але і выпусьцілі Чыгіра на паўсвабоду. Зьмененая толькі «мера стрыманьня». А да рэабілітацыі далёка.

Некаторыя зьвязваюць вызваленьне Чыгіра з-пад варты з патрабаваньнямі Групы АБСЭ па Беларусі. Нагадаем, што свабода Чыгіра вылучалася як адна з галоўных перадумоваў для дыялёгу апазыцыі з Лукашэнкам. Вось і выйшаў... Але ня варта перааацэньваць унёсак асобных палітыкаў ці структураў. Чыгір застаецца пад сьледзтвам і падпіскаю аб нявыезьдзе — у нэрвовым стане чаканьня. Што ж, намесьнік старшыні Групы АБСЭ, сп. Кляйнэр, і падкрэсьліваў, што яны не патрабуюць спыненьня працэсу над Чыгіром, а толькі вызваленьня яго да прысуду. Атрымліваецца, нічыя. І ўсё па-ранейшаму йдзе сваёй чарадою.

Тым ня менш, у самога Чыгіра ёсьць цяпер свабода выбару: актыўна распачаць перарваную палітычную дзейнасьць альбо ўнікнуць яе, заняцца асабістым паратункам ці па-ранейшаму марыць пра ўратаваньне краіны. Кошт такіх мараў ён цяпер добра ведае...

Тымчасам апазыцыянэры, найперш Вярхоўны Савет, чакаюць ад яго актыўных публічных дзеяньняў. І, бадай, спадар экспрэм'ер усё-такі ня цалкам свабодны ў сваім выбары: за 8 месяцаў сядзеньня ён міжволі стаў адной з самых вядомых палітычных пэрсонаў Беларусі, а Эўропа засьведчыла безумоўныя сымпатыі да яго.

Чыгір, чалавек спакойны, сьветлы і беларускі, застаецца адным з фаварытаў на пасаду другога прэзыдэнта Беларусі. Праўда, на гэты раз ягоным найбольш верагодным ды сур'ёзным супернікам стане Вінцук Вячорка. І гэта будзе барацьба асобаў, для якіх незалежнасьць дзяржавы й прыярытэт нашае мовы, як і прыстойнасьць у паводзінах — рэчы неаспрэчныя. Таму ў любым выпадку выйграе Беларусь.

Гары Куманецкі

## Куды скінулі Ціцянкова?

Па БТ абвесьцілі, што Іван Ціцянкоў пайшоў у адстаўку. Гэты чалавек кіраваў справамі прэзыдэнта — пасада, у канстытуцыях не прапісаная, але ў рэальнасьці вельмі ўплывовая. Ціцянкоў належаў да замкнёнага і таямнічага кола людзей, што разам з Лукашэнкам кіруюць нашай дзяржавай. У гэтае кола ўваходзяць сябры дзяцінства і юнацтва Лукашэнкі, як Канаплёў, жменька важных кагэбістаў кшталту Латыпава, нейкія людзі, што займаюць фармальныя дзяржаўныя пасады, але маюць найвялікшы ўплыў, як Пласкавіцкі ці Сазонаў, паўценявыя бізнэсмэны, часта з шэрагаў былых «афганцаў», кшталту дэпутата нацыянальнага сходу Гаварушкіна.

Усё ўрадаваньне ўпраўляецца ў Беларусі непублічна, непразрыста для грамадзкага кантролю. Тлумачыць сэнс пэртурбацыяў ва ўладзе цяжка. Чаму, скажам, пагарэў бізнэсмэн Лагвінец? У чый клан уваходзіў жлобінскі дырэктар Феакцістаў? Хто меншы беларусаед: кагэбіст Латыпаў ці Ціцянкоў, што падзёр бел-чырвона-белы сьцяг на даху прэзыдэнцыі? Можна толькі гадаць. Куды палялеў Ціцянкоў? А раптам Лукашэнка даручыць яму ўзначаліць «канструктыўную апазыцыю», стварыўшы нейкую «дэмакратычную партыю працоўнага народу»? Усё можа быць. Кажуць, Ціцянкова на пасадзе кіраўніка возера Нарач, Белавескай пушчы і менскіх офісных будынкаў зьменіць інфарктнік Даўгалёў.

Адстаўка Ціцянкова паказвае, што нейкія кляны ўнутры ўлады ўсё ж змагаюцца. Добра й гэта. Любое змаганьне дыялектычна вядзе да прагрэсу.

Барыс Тумар



Фота Анатоля Клешчука

*У менскай сынагозе ня зводзяцца вучні.*

жыдоўскі нумар «НН»

# Перакрэсьленая Цывілізацыя

***Паводле папярэдніх зьвестак перапісу, на сёньня ў Беларусі засталося 30 тысяч жыдоў.***

Папярэдні «жыдоўскі нумар» «Нашае Нівы» пабачыў сьвет у 1993 годзе. За гэты час рэдакцыя ня раз зьвярталася да гэтае тэмы, тымчасам як самі беларускія жыды пакідалі наш край. Мы друкавалі пераклады Шульца, Кановіча, Оза ды шмат каго зь літаратурных клясыкаў, а яны ад'яжджалі зь Беларусі хто ў Ізраіль, хто ў Амэрыку, хто ў іншы сьвет. Нарэшце засталося іх у нас 30 тысяч — жменька людзей у параўнаньні з тым цэлым народам, які жыў па ўсёй Беларусі паўтысячы гадоў. Страціўшы іх, мы страцілі і сябе.

*Пра гэта — на старонках 6—9.*

## ЯШЧЭ НЕ САРВАНАЯ КВЕТКА

*Вось як камэнтуюць зьвесткі перапісу прадстаўнікі інтэлігенцыі. Цікава, што паэт, які піша на ідыш, не захацеў, каб мы падавалі ягонае імя.*

**Эмануіл Іофэ,** *гісторык:*

Ня можа быць, такія рэчы! Што, Вы ўжо правялі перапіс і падсумавалі вынікі? Я спэцыяльна займаюся гэтай праблемай і магу з упэўненасьцю сказаць, што толькі ў Менску жывуць блізу 30 тысячаў габрэяў. Яшчэ нашая нацыя мае найвялікшы адсотак зьмяшаных шлюбаў, і няпашпартных габрэяў, па маіх падліках, у Беларусі налічваецца ад 25 да 30 тысячаў.

**Вядомы жыдоўскі паэт:**

На жаль, у Беларусі габрэяў сапраўды засталося вельмі і вельмі мала. Дый тыя, хто застаўся, у большасьці сваёй — маласьвядомыя. Наш народ не карыстаецца сваёй роднай мовай — ідыш, ня ведае і габрэйскай. Да таго ж, моцныя асыміляцыйныя працэсы адбываюцца праз зьмяшаныя шлюбы. А ад ад'езду ў Ізраэль тысячаў габрэяў Беларусь губляе шмат, бо зьяжджаюць лепшыя, зьяжджае моладзь. І мне б хацелася туды зьезьдзіць, але каб заставацца тамака назаўжды на старасьці гадоў... Я — сьвядомы габрэй, юдаіст, але Беларусь для мяне — сапраўдная Радзіма: тут жывуць мае сябры, я люблю беларускую прыроду. Увогуле, для шмат каго з нас «голас» («выгнаньне») стаўся радзімай.

*Працяг на старонцы 8*

*Інтэрвію з прафэсарам Міхаілам Пастуховым, былым намесьнікам старшыні Канстытуцыйнага суда, кіраўніком апазыцыйнай дэлегацыі на кансультацыях пад эгідай АБСЭ*



# САЮЗНАЯ ДАМОВА — НЕ ТАКАЯ ПУСТАЯ ПАПЕРКА, ЯК ШМАТ ХТО ДУМАЕ

**— Якія артыкулы Канстытуцыі парушае заплянаваная дамова пра саюз з Расеяй?**

— Перш-наперш яна супярэчыць самому статусу Рэспублікі Беларусі як сувэрэннай незалежнай дзяржавы, бо аб'яднаньне з мацнейшай краінай вядзе да падрыву самастойнасьці. Па-другое, дамова супярэчыць статусу Беларусі як бязьядзернае дзяржавы: яднаньне з Расеяй — звышдзяржавай, якая мае ядзерную зброю — тоіць у сабе пагрозу зьмены статусу нашае рэспублікі. Прынамсі, не выключае аніякага сумневу той факт, што пасьля аб'яднаньня ядзерная зброя ў нас будзе разьмешчаная хоць бы дзеля прыкрыцьця Расеі. Можна ўзгадаць і пра супярэчаньне дамовы статусу беларускай мовы як дзяржаўнай: у арт. 11 мовай міжбаковых зносінаў абвяшчаецца расейская мова, то бок, асыміляцыя беларускага насельніцтва і прыніжэньне беларускае культуры будуць працягвацца. Яшчэ варта адзначыць супярэчаньне дамовы такому важкаму інстытуту дзяржаўнасьці як грамадзянства: у праекце замацоўваецца прынцып падвойнага грамадзянства: «грамадзяне краінаўудзельніц зьяўляюцца адначасова і грамадзянамі саюзнае дзяржавы». Падвойнае грамадзянства адчыняе шлях да дыскрымінацыі грамадзянства Рэспублікі Беларусь. У выніку мы прыйдзем, хутчэй за ўсё, да грамадзянства аднае краіны, расейскага альбо саюзнага.

**— А калі мы прыпусьцім, што нехта пажадае адмовіцца ад накінутага яму сілком грамадзянства?**

— На гэтае пытаньне дае адказ арт.14 праекту дамовы, дзе сказана, што грамадзяне Беларусі — у выпадку аб'яднаньня — аўтаматычна робяцца грамадзянамі Саюзнае дзяржавы. Факт адмовы ад грамадзянства ня будзе мець аніякіх наступстваў, бо будзе праігнараваны. І ў пашпартах усім паставяць штампік, які будзе азначаць, што ўладальнік дакумэнту зьяўляецца грамадзянінам саюзнае дзяржавы. Саюзнае дзяржавы, якая дасюль застаецца безназоўнай, што вельмі дзіўна. Кожны чалавек нейк завецца, калі ён не бяспамятны, і кожная дзяржава мае свой назоў, калі яна рэальна існуе. Назвалі б свой хаўрус Беларасеяй або Русабеліяй. Дзяржава безь імя — дзяржава бяз будучыні.

**— Як зьменіцца статус Беларусі на міжнароднай арэне?**

— Я мяркую, што напачатку, прынамсі, ён ня зьменіцца, таму што Беларусь па-ранейшаму будзе выступаць ад свайго імя, як сувэрэнная дзяржава — хоць гэты сувэрэнітэт і будзе непаўнавартасны. Пытаньне аб правасуб'ектнасьці больш востра будзе стаяць у адносінах да гэтага новага саюзу: ці прызнаюць яго Эўропа і цэлы сьвет? Я ў гэтым глыбока сумняваюся, хутчэй за ўсё, нават пасьля падпісаньня дамовы — калі гэта ўсё ж адбудзецца — і Расея, і Беларусь будуць выступаць на міжнароднай арэне як сувэрэнныя, самастойныя дзяржавы. На стварэньне між імі нейкага саюзу сусьветная супольнасьць, відаць, ня будзе зьвяртаць увагі.

**— На Ваш погляд, новы саюз будзе фэдэратыўнага альбо канфэдэратыўнага кшталту?**

— Таксама даволі складанае пытаньне. З фармальнага боку вынікае, што гэта канфэдэрацыя, часовы зьвяз дзьвюх краінаў, калі ствараюцца наддзяржаўныя органы кіраваньня, якія ня маюць ясна акрэсьленых уладных паўнамоцтваў. Хоць функцыі і паўнамоцтвы гэтых інстытутаў дастаткова важкія, і прынятыя імі рашэньні будуць абавязковымі для абедзьвюх краінаў. Але ж, нягледзячы на выгляд канфэдэрацыі, падтэкстава замацоўваецца шлях да саюзу фэдэратыўнага. І самае балючае тое, што дарогі назад з гэтага саюзу фактычна няма. Зьвернем увагу на артыкул 64, які вызначае выпадкі выхаду з саюзнае дзяржавы. Чытаем, што рашэньне аб выхадзе прымаецца выключна на рэфэрэндуме, прычым рэальна выйсьці дазваляецца толькі праз 18 месяцаў пасьля акту народнага волевыяўленьня. Вынікае, што ўвайсьці ў склад саюзу можна на аснове фармальнага абмеркаваньня, якое мае выключна фікцыйны характар, то бок, лёс дзьвюх нацыяў будзе перадвызначаны подпісамі двух кіраўнікоў, а вось вылезьці з гэтае пасткі будзе значна цяжэй. І калі ў Беларусі правядзеньне рэфэрэндуму прызначае толькі адзін чалавек — прэзыдэнт краіны, дык усё будзе залежаць толькі ад яго: не спадабаецца яму саюз, ён можа сказаць: «Усё, хопіць, выходзім!» Але ж і яму прыйдзецца цяжкавата: на рэфэрэндуме прагаласаваць за выхад мусяць не менш за 50% асобаў, унесеных у выбарчыя сьпісы.

**— Шмат хто кажа аб тым, што праз саюз Лукашэнка хоча замацаваць сябе як уплывовы расейскі палітык, калі ня болей за тое. Якімі рэальнымі паўнамоцтвамі будзе надзелены Лукашэнка?**

— Абодва кіраўнікі саюзнай дзяржавы ўвойдуць у склад найвышэйшае рады, і менавіта яны будуць мець права вырашальнага голасу. Лукашэнка, паводле праекту дамовы, будзе мець аднолькавыя паўнамоцтвы з кіраўніком Расеі, але зь іншага боку, ніводзін з двух не займее перавагі. Насамрэч, сытуацыя такая, што голас любога з кіраўнікоў будзе адпавядаць уплыву падначаленае яму дзяржавы. І Беларусі будзе адведзеная роля пасынка, змушанага падпарадкоўвацца дыктату Масквы. Калі падзеі будуць разьвівацца ў гэткім напрамку, мы неўзабаве ператворымся ў частку Расейскай Фэдэрацыі, станем у адзін шэраг з Татарстанам або Башкартастанам.

**— Якія зьмены могуць адбыцца ў вайсковых дачыненьнях?**

— Напачатку ў Беларусі будуць дзейнічаць беларускія законы адносна войска, якое таксама якісь час застанецца самастойным. Але з паглыбленьнем аб'яднаўчых працэсаў паўстане пытаньне аб адзіных узброеных сілах. І яшчэ адно: у праекце дамовы ўжо прадугледжанае «функцыянаваньне групоўкі войскаў», то бок, Расея можа ўвесьці ў Беларусь так званы «абмежаваны кантынгент» дзеля абароны сваіх стратэгічных аб'ектаў, у тым ліку войскаў СПА і, магчыма, ядзернае зброі; дзеля забесьпячэньня свабоднага транзыту нафты, газу і электраэнэргіі ў заходнія краіны і дзеля эвэнтуальнай падтрымкі беларускіх уладаў.

**— Якія грошы будуць храбусьцець у руках грамадзянаў саюзу?**

— Гэтае пытаньне пакуль што адкладзенае на пасьля, аднак артыкул 13 дамовы кажа, што «саюзная дзяржава мае адзіную грашовую адзінку». Будзе адзіны эмісійны цэнтар, у Маскве, безумоўна. Але мы яшчэ доўга будзем абыходзіцца сваёй валютай.

**— Як Вы лічыце, раптоўная зьнямога Ельцына — гэта выпадковае супадзеньне ці пралічаны палітычны крок?**

— Зараз шэраг палітыкаў інтэрпрэтуе гэты факт як тактоўную адмову ад саюзу. З аднаго боку, існуе фармальная прычына, вонкавая — хвароба прэзыдэнта Ельцына, але ня трэба забывацца і на рэальныя фактары перасьцеражэньня Расеі на міжнародным узроўні ад стварэньня дзяржавы-прывіду. Дый шмат хто з расейскіх палітыкаў не зацікаўлены ў аб'яднаньні зь Беларусяй, бо зусім ясна, што пасьля яго ўзмоцняцца цэнтрабежныя сілы, якія ўжо сёньня, як бачым, існуюць, і шмат што залежыць ад вынікаў вайны на Каўказе: калі расейцы яго ня змогуць скарыць, ён выйдзе з складу Фэдэрацыі, а за ім і іншыя аўтаноміі.

**— Вашая ацэнка ролі Пуціна ў сёньняшняй Расеі і ў будучым саюзе?**

— Я думаю, што і Пуцін, і іншыя расейскія кіраўнікі прытрымліваюцца імпэрскіх поглядаў, і калі існуе магчымасьць далучэньня новых тэрыторыяў, умацаваньня «заходняга калідору», атрыманьня дадатковага шчыта ад магчымага нападу, яны наўрад ці адмовяцца ад Беларусі, што сама ідзе ім у рукі. Палітыку Расеі ў гэтым пытаньні можна лёгка прадказаць: яна заўсёды будзе зацікаўленая ў «аб'яднаньні». Таму ня варта разьлічваць на дэмакратычныя сілы нашае ўсходняе суседкі. Самастойнасьць Беларусі можа быць забясьпечаная толькі дзякуючы канкрэтным дзеяньням апазыцыі ўнутры краіны. Будзем спадзявацца, што грамадзяне Беларусі выкажуцца супраць дамовы і нас падтрымае міжнародная супольнасьць. Мы павінны разьлічваць у першую чаргу на сьвядомасьць нашага народу. Безумоўна, аптымальным варыянтам было б непадпісаньне дамовы. Чым больш часу будзе мець апазыцыя ў справе супрацьстаяньня «аб'яднаньню», тым больш існуе шанцаў, што нічога з гэтай дамовай ня выйдзе. Але трэба неадкладна рабіць канкрэтныя захады ў гэтым напрамку, трэба заяўляць аб сваім пратэсьце на ўвесь голас, каб гэта пачулі ва ўсім сьвеце.

**— Ці не зьяўляюцца гэтыя перамовы з апазыцыяй шырмай для расейскіх дэмакратаў і міжнароднай супольнасьці ды закалыхваньнем самой апазыцыі?**

— Сапраўды, робіцца ўражаньне, нібыта ўсе гэтыя кансультацыі, што праводзяцца ў рамках перамоўнага працэсу, зьяўляюцца нейкай гульнёй, у якой мы вымушаныя прымаць удзел: і адмовіцца мы ня можам, і рэальных пэрспэктываў ад іх ня бачым. Цалкам сумнеўна, што з будучых перамоваў можа нешта атрымацца, аднак, нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, мы будзем удзельнічаць у іх. Асноўная мэта на сёньняшні дзень — дасягнуць доступу на дзяржаўныя СМІ. Перамовы, усё ж — адзіны цывілізаваны шлях вырашэньня складанае палітычнае сытуацыі, у якой цяпер знаходзіцца Беларусь.

*Гутарыў Анатоль Прасаловіч*

# ЧЫТАЧАМ «НН», ЯКІЯ КУПЛЯЮЦЬ ГАЗЭТУ Ў «БЕЛСАЮЗДРУКУ»

Шаноўныя людзі!

Вельмі просім: калі Вы купляеце газэту штотыдня, дык, калі ласка, замест гэтага падпішыцеся на «Нашу Ніву». Вам гэта выйдзе яшчэ таньней, а мы, калі стане болей падпісчыкаў, зможам уже на пачатку 2000 году перайсьці з 12 да 16 старонак штотыднёва. Вось чаму: продаж праз «Белсаюздрук» выходзіць для газэты стратным, а падпіска прыносіць прыбытак (хоць для Вас падпіска таксама абыдзецца таньней, чым набываць у кіёску). Бо калі прадаюць газэту ў шапіку, дык 40% кошту «Белсаюздрук» бярэ сабе, а рэшту грошай нам вяртае толькі праз 3 месяцы. І мы ня маем, як разьвівацца.

Дык падпішыцеся, калі ласка (да 10 сьнежня).

Раней менчукам невыгодна было падпісвацца, бо газэты прыносілі дахаты толькі ва ўторак, а ў шапіку можна было набыць ужо ў панядзелак, але цяпер вельмі выгодная й дужа танная ёсьць падпіска на шапік, калі газэту забіраеш у шапіку (хочаш — у панядзелак, хочаш — калі хочаш). Гэта вельмі зручна і для тых, хто жыве ў інтэрнатах. Пра гэтую падпіску мы тут у газэце паведамляем і даем сьпіс шапікаў.

Заадно даем Вам знаць, што мы ўжо з наступнага году будзем выходзіць штотыднёва, безь перапынку, а не 4 разы на месяц, як цяпер.

Вельмі важна для нас, каб Вы падпісаліся. Ну, а калі няма цяпер грошай, купляйце так. Беларусь мяняецца, «Наша Ніва» застаецца.

*Рэдакцыя*



**Ідзе падпіска на «Нашу Ніву» на 2000 год:**

Падпіска звычайная:
на 1 месяц — 256 000 руб.
на 3 месяцы — 768 000 руб.
на 6 месяцаў — 1 536 000 руб.

Для менчукоў падпіска «да запатрабаваньня» (каб забіраць нумар у шапіку «Белсаюздруку» ў дзень выхаду газэты — гэтая падпіска прымаецца да 20 дня перадпадпіснога месяца):
на 1 месяц — 236 000 руб.
на 3 месяцы — 708 000 руб.
на 6 месяцаў — 1 416 000 руб.

Падпісны індэкс 63125.
Нас цяжка купіць у «Белсаюздруку».

НАША НІВА

**Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:**

| | |
|---|---|
| 1. Кастрычніцкі пункт падпіскі | вул. Жукоўскага, 5, к. 1 |
| 2. Партызанскі пункт падпіскі | вул. А.Кашавога, 8 |
| 3. Першамайскі пункт падпіскі | пр. Ф.Скарыны, 113 |
| 4. Фрунзенскі пункт падпіскі | вул. Рам. Слабада, 9 |
| 5. Крама № 1 | вул. Жукоўскага, 5 |
| 6. Крама № 2 | пр. Ф.Скарыны, 44 |
| 7. Крама № 3 | пр. Ф.Скарыны, 76 |
| 8. Крама № 4 | вул. Леніна, 15 |
| 9. Крама № 6 | вул. Філімонава, 1 |
| 10. Крама № 7 | вул. Якуба Коласа, 69 |
| 11. Крама № 8 | вул. Сурганава, 40 |
| 12. Крама № 9 | пр. Ракасоўскага, 140 |
| 13. Крама № 10 | вул. Асіпенкі, 2 |
| 14. Крама № 11 | пр. Пушкіна, 77 |
| 15. Крама № 12 | вул. Кіжаватава, 80 |
| 16. Крама № 13 | вул. Калінеўскага, 82, к. 2 |
| 17. Крама № 14 | вул. Валадарскага, 22 |
| 18. Крама № 15 | вул. Максіма Танка, 16 |
| 19. Крама № 16 | вул. В.Харужай, 24 |
| 20. Крама № 17 | вул. Някрасава, 35 |
| 21. Крама № 18 | ст. м. «Плошча Перамогі» |
| 22. Крама № 19 | пр. Машэрава, 51, к. 1 |
| 23. Крама № 20 | вул. Ясеніна, 16 |
| 24. Крама № 21 | станцыя мэтро «Пушкінская» |
| 25. Крама № 23 | вул. Славінскага, 39 |
| 26. Крама № 24 | вул. Жылуновіча, 31 |
| 27. Шапік № 34 | гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11 |
| 28. Шапік № 136 | ст. м. «Пл. Я. Коласа», выхад да Ак. Ф-ры |
| 29. Шапік № 187 | гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15 |
| 30. Шапік № 262 | гатэль «Прянэта», пр. Машэрава, 31 |
| 31. Шапік № 78 | гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19 |
| 32. Крама №25 | вул. К.Маркса, 21 |
| 33. Шапік №2 | Лінгв. унів-т, вул. Захарава, 21 |
| 34. Шапік №16 | Гатэль «Сьвіслач», вул. Кірава, 13 |
| 35. Шапік №18 | Тэхн. унів-т, вул. Сьвярдлова, 13/4 |
| 36. Шапік №37 | Дом Ураду, вул. Савецкая, 11 |
| 37. Шапік №38 | Пэдаг. унів-т, вул. Савецкая, 18 |
| 38. Шапік №40 | Менгарвыканкам, пр. Ф. Скарыны, 8 |
| 39. Шапік №88 | Менаблвык-м, вул. Энгельса, 4 |
| 40. Шапік №95 | вул. Мясьнікова, 39 |
| 41. Шапік №196 | Эканамічны унів-т |
| 42. Шапік №209 | МАЗ, вул. Сацыялістычная, 2 |
| 43. Шапік №228 | Унів-т культуры, вул. Рабкораўская, 17 |
| 44. Шапік №232 | МЗХ, пр. Машэрава |
| 45. Шапік №243 | Саўмін, вул. Савецкая, 9 |
| 46. Шапік №245 | Бальніца хут. дапамогі, вул. Кіжаватава, 56 |
| 47. Шапік №298 | пр. Машэрава, 75/1 |
| 48. Шапік №302 | 9-я бальніца |

спорт

# БЫЛЫЯ БЕЛАРУСЫ ГРАМЯЦЬ ЦЯПЕРАШНІХ

***На мінулым тыдні ў рамках Чэмпіянату ўсходне-эўрапейскай хакейнай лігі ў Менску былі два матчы паміж клюбам «Менск» (былое «Юнацтва») і чэмпіёнам Латвіі, «Мэталургсам» зь Ліепаі.***

Лікі 1:4 і 0:9 на карысьць «Мэталургсу», прытым што яшчэ два гады таму ўсе беларускія каманды без праблемаў перамагалі ліепайцаў, а год таму гулялі на роўных. Цяпер жа ўсё стала дагары нагамі. Клюб з Латвіі за апошнія два гады перакупіў усіх талковых беларускіх гульцоў з Горадні, Наваполацку й Менску.

Вядучы ігрок «Мэталургсу», Юры Чук, былы гараднзнец, закідвае па адной-дзьве шайбы ў кожным матчы. Пры гэтым беларускія заўзятары, як толькі нашыя пачынаюць па-буйному прайграваць, скандуюць «Са-ша, Са-ша», заклікаючы выйсьці на пляцоўку першага аматара хакею ў Беларусі Аляксандра Лукашэнку, які скрозь дэкляруе сваю любоў да хакею, насамрэч эканамічнай палітыкай дзяржавы заганяючы гэты самы хакей у труну.

Аляксей Шыдлоўскі

# ЗЬ НЯЗЬМЕННЫМ ПОСЬПЕХАМ

***І ў трэцім адборачным матчы чэмпіянату Эўропы па баскетболе беларуская зборная прайграла. Усё прайграем і ўсюды прайграем...***

Цяпер ужо ў гасьцях зборнай Грэцыі, экс-чэмпіёну Эўропы. Што было вядома загадзя, дык гэта тое, што грэкі значна мацнейшыя за беларусаў, але паразы 66:85 не чакаў ніхто. Гэта нават пры тым, што лідэр нашае каманды, цэнтравы Аляксандар Куль, набраў 23 ачкі. Наступная гульня беларусаў адбудзецца 23 лютага ў Менску са зборнай Эстоніі.

Рыхтуючыся да чэмпіянату Эўропы, беларусы не правялі ніводнай таварыскай сустрэчы, не нагулялі гульнявых сувязяў, без чаго проста нельга. На пляцоўцы нашы глядзяцца, як быццам кожны гуляе сам на сябе. У нашых жа супернікаў колькасьць таварыскіх сустрэчаў вылічваецца дзясяткамі. Але ж там — фінансаваньне ад прыватных гаспадарак, а ў нас добра, калі на Новы год міністэрства новы камплект формы падорыць. Якія ўжо тут таварыскія гульні!

А.Ш.

дзе варта быць




У перакладзе з габрэйскай мовы «ханука» азначае «пасьвячэньне». Калі больш за два тысячагодзьдзі таму габрэі вызвалілі Ізраіль ад грэка-сырыйскага панаваньня, яны вырашылі наноў пасьвяціць апаганены Ерусалімскі храм для служэньня Богу, але знайшлі толькі маленькі глечык алею, каб запаліць лямпады. Тым ня менш, зьдзейсьніўся цуд, і гэтыя лямпады гарэлі восем дзён — пакуль не знайшлі алею яшчэ. У напамін пра гэта габрэі запальваюць ханукальныя васкоўкі. Гэта сьвята радасьці. У Менску яны зробяць гэта 11 сьнежня а 12-й у ДК Трактарнага заводу, дзе ладзіцца канцэрт, у якім удзельнічае кампазытар і выканаўца габрэйскіх песень Мікалай Хаскін. Уваход вольны.

## Блюз

8 сьнежня а 19-й у ДК Трактарнага заводу Блюзавы тэатар Мікіты Зайцава паплыве «Ўніз па Місісіпі» — так завецца музычна-паэтычная дзея паводле матываў клясыкі блюзу.

## Беларускія кампазытары

Таму, хто пасьля словаў «беларускія кампазытары» згадвае толькі Ханка з Лучанком, варта завітаць 11 сьнежня ў Залю камэрнай музыкі Філярмоніі, дзе піяніст Барыс Бэргер выканае творы нашых стваральнікаў музыкі А.Багатырова, У.Будніка, У.Дарохіна, Л.Захлеўнага ды іншых.

## Тэатар

Пасьля гастроляў Коласаўскага тэатру жыцьцё ў Купалаўскім пакрысе вяртаецца ў сваё звыклае рэчышча: 6 ды 8 сьнежня — прэм'ера казачнай фээрыі «Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета» паводле Шэкспіра, 9-га — камарыльля «Вечны Фама» паводле Ф.Дастаеўскага, 10-га — «Касьцюмэр» Р.Гарвуда, 11-га — камэдыя А.Астроўскага «Лес», 12-га — «Ажаніцца — не журыцца» Далецкіх і М. Чарота.

На Малой сцэне 10-га — трагікамэдыя А.Фугарда «Тут жывуць людзі», 12-га — «Разьбітае сэрца», камэдыя-рэтра Т.Уільямса.

9 сьнежня ў Дольнай залі Чырвонага касьцёла можна паглядзець п'есу «Вяртаньне ў рай» Беларускага паэтычнага тэатру аднаго актора «Зьніч». Пачатак а 18-й.

## Этна-фольк'2000

На мяжы другога ды трэцяга тысячагодзьдзяў з глыбіняў нашай генэтычнай памяці выплываюць старажытныя мэлёдыі, матэрыялізаваныя ў кампазыцыях гурта «Палац» ды этна-трыё «Троіца». 11 сьнежня яны выступяць разам у канцэртавай залі «Менск». Гурты існуюць ужо даўно, а вось так разам выступаюць упершыню.

## Беларускі калегіюм

7 сьнежня — публічная лекцыя Ўладзімера Снапкоўскага «Найноўшая геапалітыка і дыпляматыя Беларусі».

## Опэра

7 сьнежня — «Чарадзейная флейта» В.А.Моцарта;

9-га — вечар старадаўняга рамансу;

11-га — прэм'ера опэры Дж.Вэрдзі «Набукка»;

12-га — «Травіята» Дж. Вэрдзі.



Запрашаем усіх 9 сьнежня на мерапрыемствы, прысьвечаныя 108-й гадавіне з дня нараджэньня Максіма Багдановіча:

А 10-й гасьцінна расчыніць дзьверы Літаратурны музэй Максіма Багдановіча, супрацоўнікі музэя распавядуць Вам пра жыцьцёвы і творчы шлях паэта, шлях у Вечнасьць (Менск, вул.Багдановіча 7а.)

А 12-й прыхільнікі творчасьці паэта сустрэнуцца каля помніка Максіму (на Траецкай гары), каб сказаць колькі словаў, ускласьці кветкі.

А 18.30 у Доме літаратара (вул.Фрунзэ 5) адбудзецца Літаратурная вечарына, прысьвечаная Дню нараджэньня Максіма, дзе Вас чакае сустрэча зь беларускімі паэтамі, пісьменьнікамі, творчымі калектывамі.

*"Ты ня згаснеш, ясная заранічка..."*

Музэй Максіма БАГДАНОВІЧА

выхад у горад

Зьміцер БАРТОСІК

# ЖЭНІК І СЯРОЖА

Іншым разам ня варта выходзіць на вуліцу, каб убачыць нешта вартае апісаньня ці проста пацешнае. Дзякуй богу, я жыву на першым паверсе, і ўсё жыцьцё двара ў мяне, як на далоні. Пару дзён таму актыўная частка жанчынаў нашага дому наладзіла несанкцыянаваны мітынг ля дзьвераў пад'езду.

Пратэставалі супраць Нінэлі, Жэніка й Сярожы. Нінэль — гэта наша суседка зьверху. А Сярожа й Жэнік — яе сабакі, зь якімі старая Нінэль дазорам, два разы на дзень абыходзіць прылеглыя бакі для сьмецьця з мэтаю спажывы для сваіх чацьвераногіх сяброў. Шэры Сярожа — дзіця адультэра нямецкага аўчара й дваровага цуцыка. На выгляд вельмі падобны да сваіх памежных і міліцэйскіх суродзічаў, але характарам больш флегматычны й дружалюбны. Я нават ніколі ня чуў Сярожавага голасу. Ён любіць адпачываць ля дзьвераў ліфту, і тыя, хто зь ім незнаёмы, пакорна ідуць па лесьвіцы. Сярожа іх праводзіць сумным позіркам. Чорны Жэнік — поўная супрацьлегласьць свайму сябру. Ростам ніжэйшы, крывёй прасьцейшы, характарам больш баявы. Менавіта ён і распачаў, ці то з галадухі, ці то зь цікаўнасьці, паляваньне на бяздомных катоў. І гэтым разам загрыз суседзкіх кацянятаў, што выклікала справядлівую буру пратэсту ўсіх нашых котатрымальніцаў. На мітынгу было вырашана прымусіць старую Нінэль адправіць абодвух злачынцаў на вёску альбо набыць ім намордні.

На наступны дзень двор убачыў наступную карціну. Спачатку з пад'езду паказаўся Сярожа ў імправізаваным наморднiку зь нейкага дроту. За ім выбег і Жэнік. У Жэніка на мордзе красавалася абрэзаная, акурат пад памер ягонай морды, плястыкавая бутэлька з-пад мінэралкі, надзейна завязаная вяровачкай за Жэнікавымі вушамі. Асабліва вынаходліва глядзелася рыльца зь дзюрачкай, праз якую Жэнік быў вымушаны дыхаць. Абнова Жэніку яўна не падабалася. Ён бегаў на двары, намагаючыся скінуць скафандар, і выгляд меў пры гэтым, скажам проста, дурнаваты.

Праз хвілінаў дзесяць Жэнік стаў героем дня. Вязь сьмеху на яго глядзець было немагчыма. Твары вечна змрочных алькаголікаў і абцяжараных плётками бабулек расквітнелі ўсьмешкамі. Паглядзець на Жэніка прыходзілі жыхары суседніх двароў. Выпадковыя мінакі спаборнічалі ў дасьціпнасьці. Хто абазваў Жэніка «Лайкам на месяцы», хто «вадалазам», хто «амонам». У памыйных катоў было асаблівае сьвята. Жэнік іх ганяў, але схапіць ня мог. Нават выдаваныя ім гукі з бутэлькі былі больш падобныя на сапсаваны грамафон, чым на грозны брэх.

І тут здарылася неверагоднае. Забраўшы наш маўклівы, флегматычны Сярожа. І гэта быў ня брэх, а нейкая лаянка. Заўжды згаслыя Сярожавы вочы напоўніліся злосьцю. Сябры па-змоўніцку сышлі ў бліжэйшы лес. Паказалася гэтая пара пад вечар. Высока задраўшы свой шалом, ішоў Жэнік, за ім трыюмфальна тупаў сябра. У Сярожавых зубах была няшчасная, нежывая вавёрка. Усе малалетнія хуліганы былі ў захапленьні.

На цэлы дзень мой двор быў выключаны з палітычнага ці якога іншага працэсу. Людзі забыліся на Лукашэнку й Чыгіра, на Расею й НАТА, на інтэграцыю й дэнамінацыю. Дый на саміх сябе таксама. Мне цяжка нават уявіць, што магло б адцягнуць іхнюю ўвагу ад забутляванага Жэніка і ад гераічнага Сярожы.

Жэнік па-ранейшаму бегае ў сваёй бутэльцы. Двор прызвычаіўся.

Двор абмяркоўвае, ці не спэцыяльна Ельцын захварэў, «каб нас ня ўзяць у Расею» і калі «пабядзець чачэнаў». Адзіны, хто маўчыць — гэта Сярожа. Робіцца ўражаньне, што ён самы разумны ў двары. А можа і ня толькі ў двары. ■

# ЧАЧЭНІЯ. ВАЙНА


Фота Sipa Press

У выніку налёту на вёску Элістанжы загінулі 30 чалавек, 48 параненыя

## Джахар-Калу будуць браць зморам?

**У мінулую пятніцу, у апошні дзень працы цяперашняй Думы, прадстаўніца групы «Расейскія рэгіёны» Эла Панфілава заявіла, што «на Паўночным Каўказе фактычна пачалася буйнамаштабная вайна».**

Фэдэральная авіяцыя наносіць няспынныя ўдары па чачэнскіх пазыцыях на поўдзень ад Грознага. Паводле Інтэрфаксу, самалёты атакуюць дарогі, што вядуць з чачэнскай сталіцы ў Шатой, Гойты, Шалі, Алхазурава, а таксама вольны ад расейскіх войскаў кавалак трасы «Каўказ» — ад Аргуну да павароткі на Урус-Мартан. Ракетныя ўдары наносяцца па ўсім, што рухаецца. Сьведкі налічылі ў гэтым рађне як найменей 11 машын, ахопленых полымем. На дарогах у Грозным і на выездзе зь яго мноства завалаў і вялізных ямаў ад бомбаў вялікай магутнасьці.

Паводле *Associated Press* са спасылкай на намесьніка міністра ўнутраных справаў Інгушэціі, у мінулую пятніцу ў баі каля Урус-Мартану загінулі больш за 200 расейскіх вайскоўцаў, а 50 былі захопленыя ў палон і практычна адразу ж публічна пакараныя сьмерцю. Расейцы паведамілі пра захоп Урус-Мартану, але пацьвярджэньняў няма.

Учора цэлы дзень фэдэралы «зачышчалі» Аргун. Як сказалі Інтэрфаксу ў расейскім штабе, «зачыстка» гэтага гораду зойме працяглы час. Па-першае, там нібыта замінаваныя ўсе адміністрацыйныя будынкі. Па-другое, у Аргуне, як данесла расейская разьведка, засталося шмат баевікоў, што будуць выдаваць сябе за мірных жыхароў, каб праводзіць сабатаж у расейскім тыле. Таму адной «зачысткай» не абысьціся.

Ч.



## Беларускі пікет на Вацлаўскай плошчы

Беларусы Чэхіі, згуртаваныя ў суполку «Скарына», і палітычныя ўцекачы, што атабарыліся ў Празе, сёньня правялі пікет пад бел-чырвона-белымі сьцягамі на Вацлаўскай плошчы. Пікетоўцы раздавалі людзям улёткі «Крэмаль, які вядзе антычалавечную вайну ў Чачэніі, які захлынуўся ў карупцыі, у якім цяпер пануюць штатныя супрацоўнікі КГБ, імкнецца пазбавіць Беларусь незалежнасьці. Мы, беларусы, ніколі не пагодзімся са стратай незалежнасьці і будзем змагацца. Абаронім Эўропу ад расейскага імпэрыялізму й лукашызму!». Арганізатары зьбіраюцца правесьці 13 сьнежня пікеты ля беларускай і расейскай амбасадаў.

З Прагі — В.К.

# СМАК АЛЬБАНСКАГА ХЛЕБА

У альбанцаў, пра жорсткасьць якіх панславісцкая прапаганда пусьціла шмат легендаў, існуе традыцыйны ганаровы кодэкс "Канун", паводле якога ўсіх іншаземцаў трэба сустракаць вельмі ветла, прычым за бясьпеку гасьцей нясе адказнасьць гаспадар.

І менавіта "Канунам" у значнай ступені тлумачыцца тое, што пад час гітлераўскага генацыду альбанскі народ прытуліў у сваёй невялікай краіне сотні жыдоў зь Югаславіі, Нямеччыны, Аўстрыі ды Баўгарыі. У Альбаніі мусульмане заўжды колькасна пераважалі над праваслаўнымі й каталікамі. Жыдоў заўжды тут было няшмат. Пад час Галакосту альбанцы здолелі так схаваць жыдоў, што ніводзін зь іх — ані мясцовы, ані прышлы — не патрапіў у рукі нацыстоўскіх акупантаў.

Тых жыдоў было каля 1800 чалавек. Аднак пра абставіны іхнага выратаваньня на працягу 50 гадоў ніхто ня ведаў, бо краіна за камуністычным дыктатарам Энвэрам Ходжам была цалкам ізаляваная ад сьвету.

Існуе ганаровы сьпіс дзяржаваў, якія адмовіліся падтрымаць гітлераўцаў у вынішчэньні жыдоў. Там фігуруюць Данія, Фінляндыя і Баўгарыя, але раней не прысутнічала Альбанія — адзіная краіна, дзе пасьляваенная колькасьць жыдоў перавысіла даваенную. У суседняй Грэцыі, для параўнаньня, загінулі 90% жыдоў.

Вядомыя імёны дзясяткаў альбанцаў, якія выратавалі людзей ад Галакосту.

Пэтра і Магдалена Шкурці ўратавалі 6 жыдоў з Бэрату, апранўшы іх у сялянскае адзеньне і пасяліўшы ў аддаленым горным кляштары. Сям'я Кемаля Бічаку з горскай вёскі на поўначы ўкрывала ў сябе 6 жыдоўскіх сем'яў, 26 чалавек. Многія месяцы яны дзялілі кукурузны хлеб, фасолю і сушанае мяса. Уся вёска ведала пра тых жыдоў. Аднойчы мясцовыя бандыты прапанавалі Мэфаілу Бічаку — найстарэйшаму з роду — выдаць жыдоў і разам падзяліць іхную маёмасьць. Абураны Мэфаіл адказаў проста: калі з жыдамі штонебудзь здарыцца, ягоныя дзеці на ўсё жыцьцё будуць заплямленыя ганьбай. Праз



шмат гадоў ацалелыя жыды напісалі яму з Аргентыны: «Дагэтуль яшчэ чуем на вуснах смак твайго хлеба».

Пануючая ў Альбаніі традыцыя выключала антысэмітызм і на больш шырокім узроўні. У 1943 годзе альбанскае падпольле абвесьціла, што кожны, хто адмовіць у прытулку гнаным, будзе расстраляны «за тое, што зганьбіў альбанскі народ». Такіх паскудаў не знайшлося. Альбанцы так і не перадалі немцам сьпісаў жыдоў і не прымушалі жыдоў насіць паскі з жоўтай зоркай.

Нават італьянскія акупацыйныя ўлады — пасьля вываду якіх у 1943 годзе прыйшлі немцы — і тыя дапамагалі альбанцам. Ноччу напярэдадні прыходу немцаў італьянскі *comandante* лягеру пад Дурэсам адчыніў браму, даючы магчымасьць уцячы ўсім зьняволеным, у тым ліку й жыдам, а канцлягерныя сьпісы спаліў.

Лічыцца, што першыя жыды на зямлі сёньняшняй Альбаніі былі нявольнікамі, якіх за часамі Рымскай імпэрыі перавозілі з скоранай Юдэі ў Рым. Калі караблі зьбіліся з курсу і прысталі да ілірыйскага берагу, шмат хто зь нявольнікаў зьбег. За імі ня гналіся: думалі, уцекачоў зжаруць драпежнікі. Але радавітыя ілірыйцы, як і іхныя нашчадкі ў XX ст., дапамаглі зьбеглым чужынцам.

Ёсіп Флявій адзначыў, што ў той час на поўдні краю існавала пэўная колькасьць чыста жыдоўскіх вёсак. Падарожнік Бэньямін Тудэльскі, які жыў у XII ст., апавядае пра людзей стуль, «што завуцца жыдоўскімі імёнамі, а некаторыя дык і ўважаюць сябе за жыдоў».

Найслыньнейшым жыдам у гісторыі Альбаніі быў Сабатай Цьві, самаабвешчаны мэсія (XVII ст.). Арыштаваны асманскімі ўладамі, ён неўзабаве раптам перавярнуўся на іслам. Каб пазбыцца Сабатая, вялікі візыр выслаў яго ў Альбанію. Рэшту жыцьця той правёў каля места Бэрата, там і памёр акурат на Ём-Кіпур 1676 году.

Сёньня ў Альбаніі жыве 61 жыд. Яны памятаюць, як на працягу 50 гадоў у «першай атэістычнай дзяржаве сьвету» — якой абвесьціў яе тыранскі тыран Ходжа — было забароненае вызнаньне рэлігіі. Але жыды патаемна зьбіраліся на прыватных кватэрах, дзе адзначалі найвялікшыя сьвяты і дзялілі перададзеную з Галяндыі мацу. Нават абразалі хлопчыкаў, але за адсутнасьцю рэзьніка цырымонію праводзілі ім мусульманскія сьвятары.

У 1991 годзе камуністычныя ўлады ляснулі. Каля 400 альбанскіх жыдоў зьехалі ў Ізраіль, смуткуючы па сваім краі, малым і бедным, які насяляюць людзі зь вялікім сэрцам.

А.П.

жыдоўскі нумар "НН"

# ПЕРАКРЭСЬЛЕНАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Колькасьць жыдоўскага насельніцтва ў Беларусі расла да апошняй вайны. У Менску і ў Вільні іх было па 43 працэнты, у некаторых мястэчках і таго болей.

У 1918 годзе, калі стваралася Беларуская Народная Рэспубліка, беларушчына з жыдоўствам ішлі поруч. І першая і другая Ўстаўныя Граматы БНР дэкляравалі роўнасьць усіх народаў і моваў. У адказ на гэта жыдоўская фракцыя Менскай гарадзкой Думы заявіла пра падтрымку беларусаў, пра ўдзел у стварэньні БНР і выдаткаваньне грошай на беларускія справы.

І ў БССР ад пачатку ўлады таксама прыхільна ставіліся да жыдоўства, ствараючы прэсу, школы, тэатры. На гербе БССР быў зроблены надпіс на ідыш. Невыпадкова таму жыды ў большасьці засталіся тут. Калі ж запрацавалі сапраўдныя мэханізмы бальшавізму, уцякаць ім ужо не было куды й не было як. Ва Ўсходняй Беларусі ў 1939 годзе налічвалася крыху больш за 400 тысячаў жыдоў, альбо 8 з паловай працэнтаў усяго насельніцтва БССР. І гэта была самая шматлікая нацыя пасьля беларусаў.



Блізу таго склалася сытуацыя і ў Заходняй Беларусі. Але... У тым самым 39-м годзе сюды з Польшчы хлынула шмат уцекачоў, якія ратаваліся ад немцаў. Колькасьць жыдоў у Беларусі перавысіла мільён чалавек...

Заходнебеларускія мястэчкі былі літаральна перапоўненыя гэтымі людзямі. Яны жылі нават у сынагогах. Як польскія грамадзяне яны, часьцяком не трапляючы ў савецкую статыстыку, траплялі ў савецкія лягеры. Тыя ж, хто застаўся тут, застаўся назаўсёды. У магілах. Гэтак нямецкія нацысты перакрэсьлілі цывілізацыю, што праіснавала ў нас паўтысячы гадоў, стаўшы неад'емнай часткаю беларускасьці. Зусім няшмат беларускіх жыдоў былі эвакуяваныя ў глыбіні савецкае Эўразіі. Тых, хто вярнуўся сюды па вайне, быў мізэр. Людзі не хацелі вяртацца ў вусьцішныя ўспаміны. Таму па вайне ў Беларусі зьявіліся жыды з Украіны, Расеі, Прыбалтыкі. Адначасова з колькаснымі адбыліся й зьмены якасныя. Паваенныя жыды былі ўжо часткаю савецкае інтэлігенцыі. У 1959 годзе жыдоў у БССР стала 150 тысячаў чалавек. Гэта была самая вялікая паваенная лічба. Бо пачынаючы з 70-х, спачатку павольна, а пасьля ўсё больш хутка, яны пачалі пакідаць Беларусь, ад'яжджаючы цяпер з краіны саветаў у вольны сьвет. Напрадвесьні беларускае незалежнасьці, у 1989 годзе, іх у нас было ўжо 112 тысячаў, у два разы менш нават за ўкраінцаў.

Незалежнасьць Беларусі не прынесла чаканага жыдоўскага адраджэньня. Гэтым разам іх пагнала з нашае краіны ўсё разам — радыяцыя, эканамічны крызыс і... доўгачаканая свабода выбару. Ужо сёньня дэмографы й сацыёлягі прагназуюць, што жыдоў у Беларусі засталося блізу 30 тысячаў. ■


Фота "Gazeta Wyborcza"



# ЖЫДЫ

У канвэнцыях клясычнага правапісу («тарашкевіцы») і ў жывой беларускай мове дасавецкага часу гэтае слова было адзіным назовам народу, лёс якога за стагодзьдзі супольнага жыцьця цесна пераплёўся зь беларускім. У гэтым сэнсе Беларусь належала таму самаму эўрапейскаму арэалу, што й Польшча, Літва ды іншыя краіны Ўсходняй Эўропы, дзе словы *Żyd*, *Žydas* ня маюць ніякага абражальнага або адмоўнага адценьня.

Гвалтоўная русіфікацыя падсавецкай Беларусі надала беларускаму слову *жыд* зусім іншае гучаньне — у расейскамоўным кантэксьце яно ўспрымаецца гэтаксама як і адпаведнае расейскае, безумоўна абразьлівае, слова.

Апошнімі дзесяцігодзьдзямі вяртаньне да клясычнага, несавецкага варыянту беларускай мовы зноў паставіла пытаньне аб статусе слова *жыд* — аб тым як вярнуць яго ва ўжытак, ня крыўдзячы самых прадстаўнікоў гэтага народу. Праблемай найчасьцей паўставала тое, што апошні раз замена савецкага *яўрэй* на несавецкае *жыд* адбылася ў надзвычай трагічны для нашых народаў час другой сусьветнай вайны, што не магло не выклікаць у сёньняшніх людзей балючых асацыяцыяў. З другога боку, ўспрыманьне гэтага слова залежыць і ад таго, кім лічыць нас, беларусаў — асобным усходнеэўрапейскім народам (як палякі або літоўцы), або нейкімі «малодшымі братамі» расейцаў і мову нашую — толькі адгалоскам расейскай з усімі яе сэнсавымі асацыяцыямі.

Гэтая дылема, аднак, дагэтуль застаецца нявырашаная, а прыхільнікі клясычнага правапісу часта, каб пазьбегнуць канфрантацыі, ужываюць словы *гэбрай, гэбрайскі*. Слова *жыд* загінула ў полымі Галакосту, слова *яўрэй* — на руінах савецкай імпэрыі.

«Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй», — спадзяваўся Янка Купала ў 1919 годзе. Гэтаму прароцтву не было наканавана збыцца. Другая сусьветная вайна ў Беларусі забрала ў нябыт цэлы культурны кантынэнт беларускага жыдоўства (задумаемся, чым рэальна напоўненая вядомая ўсім формула «кожны чацьверты»). Гэты кантынэнт зьнік, як Атлянтыда. Ягонымі спадкаемцамі застаемся мы ўсе.

Сяргей Шупа, Радыё Свабода

# РЫСА АСЕЛАСЬЦІ

Сяргей ПАЎЛОЎСКІ

За апошнія 10 гадоў колькасьць жыдоў у Беларусі скарацілася радыкальна, амаль у 5 разоў — да трыццаці тысяч. У параўнаньні з пераддваенным часам — жменька людзей. Ня стала іх, ня стала і нас. Іх — колькасна, нас — роўна настолькі ж — якасна. Яны перамясьціліся ў Ізраіль і Амэрыку, везучы ў сваіх валізах незапатрабаваныя намі ізумруды нашай гісторыі і нашага духу, з мацерыка Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Яшчэ да вайны жыды складалі палову насельніцтва беларускіх, польскіх і літоўскіх гарадоў і мястэчак. У Расею іх не пускалі, таму рыса аселасьці была тут. Не ў апошнюю чаргу менавіта дзякуючы ім гэтая паласа зямлі ад Балтыйскага да Чорнага мора набыла адзінства і свой характэрны выгляд, які ў нас асацыюецца з ВКЛ. Сёньня мы, беларусы, існуем у стане поўнай адчужанасьці зь літоўцамі ды ўкраінцамі і задаемся пытаньнем: як гэта мы з гэтымі народамі пражылі ў межах адной краіны паўтысячы гадоў? Аднак варта ўявіць сабе колішняга падарожніка ад Каралеўца да Крыма, які паўсоль сустракаў жыдоў, а яшчэ татараў і польскамоўную шляхту, каб зразумець, што гэтая зямля мела адзіны культурны ляндшафт. Менавіта жыды ўтваралі нашую супольнасьць, нашае цэнтральнаэўрапейскае адзінства.

У Расеі іх не любілі, таму слова «жыд» у расейскай мове стала абразьлівым. З русіфікацыяй тое ж панесьлі і сюды. Літоўцы трымаліся за свайго «жыдаса», палякі — за свайго «жыда», інстынктыўна разумеючы, што той, хто зрабіў імя іншае нацыі ў сваёй мове абразаю, не ад тае нацыі адняў, а ад сябе. Не любіць жыдоў у Беларусі не было падставаў ніколі. Нелюбоў прыйшла разам з русіфікацыяй.

Аднак і прынесены нам назамен «жыда» курталы ў беларускім гучаньні расейскі «яўрэй» не прыжываўся. Спатрэбілася забараніць мноства клясычных тэкстаў беларускай літаратуры, у тым ліку і Купалаў верш «Усе беларускія жыды», каб правесьці гэтую ўніфікацыю, каб і мы пачалі развіваць у сабе пачуцьцё бытавога антысэмітызму. Зьмены стаўленьне да жыда сталі зьменаю стаўленьне да беларуса. Калі жыд — абраза, тады і беларус — абраза. Жыд — скнара, а беларус — калхозьнік. І далей — пшэк таргаш, украінец — хахол, літовец — лабус. Абразы, абразы... Харошы толькі расеец, які шчодра дзяліўся з намі сваім імпэрскім шавіністычным досьведам. І мы прымалі, не разумеючы, што фатальна страчваем сябе.

Калі вы шукаеце ў Менску асабліваe духоўнасьці гораду і не знаходзіце, калі вы спрабуеце адчуць дух Вялікага Княства і не адчуваеце, калі ў вас не заладжваецца гаворка з палякам, літоўцам або ўкраінцам, я магу дапусьціць, з-за чаго гэта і якая зьвязка выпала з колішняе супольнасьці. Разам з жыдамі і яшчэ хіба з татарамі, у гэткай чалавечай разнастайнасьці і побач з прыкладамі суседніх тыранічных дзяржаваў ВКЛ нагадвала Амэрыку часоў стварэньня найстарэйшай у сьвеце канстытуцыі. Можа таму паўстаў у нашым краі ўжо ня надта зразумелы сёньня фэномэн талерантнасьці...

Але іх няма. Няма і нас. І калі яны зьехалі зь незапатрабаванымі ізумрудамі нашай супольнай духоўнасьці, дык мы пакінулі сабе ад іх адно голы і ні на чым не ўгрунтаваны антысэмітызм і калхозную беднасьць духу. З тым і засталіся, бясконца задоўжыўшы свой шлях да самых сябе. Беларус не пачуваецца гаспадаром у сваёй краіне, бо жыве не ў Беларусі, а ў чужой пакінутай паласе аселасьці. ■


Фота "Gazeta Wyborcza"

# ПА-ЗА МЕЖАМІ ГЕТА:

## Жыды і беларусы ў нямецкіх дакумэнтах часоў генацыду

Аркадзь ЛЕЙЗЕРАЎ

Гета ў Беларусі былі створаныя акупантамі ў канцы ліпеня — пачатку жніўня 1941 г. (у літаратуры іх колькасьць вызначаецца па-рознаму — ад 70 да 110).

Прыведзеныя ў гэтай публікацыі факты ўзятыя з паведамленьняў і зводак паліцыі бясьпекі і СД, якія рэгулярна складаліся ў Бэрліне на падставе інфармацыі, якая паступала зь месцаў. Яны не патрабуюць камэнтароў. Яны патрабуюць толькі аднаго — прачытаньня.

У паведамленьні №1 ад 23 чэрвеня 1941 г. адзначалася, што пры пераходзе мяжы 22 чэрвеня захоплена 1000 жыдоў-уцекачоў.

У зводцы №13 ад 5 ліпеня паведамляецца, што ў Горадні (зона дзеяньня апэратыўнай групы 9) пачатыя пагромы.

У Менску падпаленыя драўляныя дамы, у якіх жылі жыды, што падлягалі перасяленьню ў гета. У зводцы №20 ад 12 ліпеня сьцьвярджаецца, што дамы былі падпаленыя самімі жыдамі. У сувязі з чым «ліквідавана частка жыдоў».

Пры фільтрацыі ў Менску мужчынскага лягеру цывільных асобаў і ваеннапалонных: «спачатку расстраляна 1050 жыдоў. Астатнія штодзённа дастаўляюцца на экзэкуцыю».

Са зводкі №21 ад 13 ліпеня: «У Горадні і Лідзе ў першыя дні вайны было зьнішчана 96 жыдоў».

«Ліквідацыя працягваецца штодзённа» — са зводкі №27 ад 19 ліпеня.

«Жыды распрацавалі спэцыяльную сыгналізацыйную службу, і пры зьяўленьні палітычнай паліцыі і бясьпекі хаваюцца ў лясах і балотах», — даносілі нямецкія службы, якія вялі сталае назіраньне за жыдамі.

Характэрная выснова ўтрымліваецца ў зводцы №31 ад 23 ліпеня: «Беларусаў нельга справакаваць на пагромы жыдоў».

У зводцы №32 ад 24 ліпеня паведамляецца, што ў Менску ліквідаваныя ўсе слаі жыдоўскай інтэлігенцыі (апроч мэдычных работнікаў).

Прыцягвае ўвагу зьмешчанае ў зводцы №43 за 21—31 ліпеня прызнаньне пра тое, што «ў Менску не назіраецца ярка выражанага антысэмітызму». І немцы працягваюць масавыя рэпрэсіі сваімі сіламі з прыцягненьнем паслугачоў, дастаўленых зь Літвы і Ўкраіны.

Яшчэ раз пра немагчымасьць выкарыстаньня беларусаў для правядзеньня пагромаў: «Інсцэніраваць пагромы супраць жыдоў дагэтуль у зьвязку з пасыўнасьцю... беларусаў аказалася немагчыма».

Падобнае заключэньне неаднаразова ўтрымліваецца і ў іншых дакумэнтах акупацыйных уладаў і іхных органаў. Менавіта з гэтай прычыны яны выкарыстоўвалі для пагромаў літоўскія і ўкраінскія фармаваньні. Заўважым, што апошняя акалічнасьць не дасьледавалася ў савецкай навуковай літаратуры пра вайну. ■

*Публікуецца ў скарочаным перакладзе паводле зборніка артыкулаў «Евреи в Беларуси. История и культура», т.II, Менск, 1998. Цытаваныя дакумэнты захоўваюцца ў Нацыянальным архіве РБ і ў Дзяржархіве Менскай вобласьці.*




Фота Анатоля Клешчука



Фота Анатоля Клешчука

Апошні жыд Радуні. Усіх астатніх забілі ў вайну

# РАДЗІМА ЧАЛАВЕКА, ЯКІ АДРАДЗІЎ МОВУ



Імя Язэпа Драздовіча вярталася беларусам марудна й пакутліва. Толькі ў другой палове 80-х яно стала здабыткам нашае нацыі ў сваім натуральным і справядлівым кантэксьце. Цяпер тапаграфія Драздовіча добра вядомая: Дзісеншчына, ваколіцы Шаркоўшчыны й Глыбокага, Германавічы й Лужкі. У Лужках, адным з найбольш ацалелых мястэчак гэтага краю, ёсьць і музэй імя Язэпа Драздовіча, адзіны пакуль у нашай краіне.

Гэтак Лужкі сталі месцам памяці пра славутага беларускага мастака.

Аднак для іншага народу, для жыдоў, гэтае мястэчка славутае зусім іншым імём. Імя гэтае ведае, бадай кожны жыд у сьвеце. Гэта Элі Пэральман, альбо Эліэзр Бэн-Егуда, як называюць яго пагабрайску. І менавіта ён, адзін з народжаных у нашым краі, у краі, гэтак добра зразумелым беларусам, адрадзіў адну са старэйшых моваў сьвету, мову Старога Запавету. Гэтая мова загучала цяпер па ўсім сьвеце, стала дзяржаўнаю ў Ізраілі. Мова малаўцямных малітваў, мова Сьвятога Пісьма, на якой у пачатку нашага стагодзьдзя ніхто ня мог весьці жывую гутарку. І яна, мова, зажыла... Дзякуючы нашаму земляку-летуценьніку з Лужкоў.

Сёньня ў Лужках не знайсьці нашчадкаў ані сваякаў Элі Пэральмана. Адзіная кволая повязь, што лучыла гэтую зямлю зь небам, таксама перарваная. У 1973 годзе тутэйшы аграном Новік загадаў зрыць бульдозэрам старасьвецкія жыдоўскія могілкі. Надгробкі пакідалі ў ручай. Цяпер на гэтым месцы ўзыходзіць рунь...

Хоць ацалела тут школа, дакладней, сьцены тае школы, у якую хадзіў Элі Пэральман. Далей ягоныя вучнёўскія шляхі пралеглі праз Полацак, Глыбокае, Дзьвінск, а пасьля быў Парыж. Аднак сьцены тае жыдоўскае школы, густа зарослыя быльнягом ды крапівою, пакуль стаяць над стромкім раўчуком, дзе бруіць рака. Кажуць, што праз пару гадоў гэтыя сьцены ўваляцца ўсё ж у ваду. Рака падмывае бераг.

А ў далёкім Ізраілі, нат у Ерусаліме, імем Элі Пэральмана названыя вуліцы й плошчы. Ягонае імя вымаўляюць там амаль як імя прарока.

Тым самым Драздовіцкім музэем у Лужках апякуецца ад самага пачатку Ада Райчонак, жанчына, у лёсе якое, нібы ў кроплі дзісенскае вады, адлюстраваўся лёс даваенных местачкоўцаў. Яе бацька, цёзка Пэральмана, Элі, быў жыдам, а маці — беларускаю. Бадай, толькі маці й здолела б распавесьці, якім цудам яна ўратавала ў вайну дачку. Толькі Ада Элеўна можа цяпер распавесьці, як яна здолела стварыць і захаваць у Лужках музэй беларускага генія Язэпа Драздовіча. Аднаго разу на краязнаўчых «Браслаўскіх чытаньнях» я пазнаёміўся з гэтаю жанчынаю. Спадарыня Райчонак прызналася мне, пасьля двух дзён знаёмства, што не мараю ёсьць зьнесьмяроціць у Лужках памяць пра Элі Пэральмана. Для яе — гэта абавязак перад памяцьцю пра бацьку, што загінуў у вайну. Бо ж для беларусаў яна зрабіла, што магла — музэй імя Драздовіча. Выдатны музэй. А яшчэ яна перадавала прывітаньні сваім знаёмым у Вільні, асабліва Лявону Луцкевічу... Счакаўшы, напісала яму ліст, які я перадаў пасьля дзядзьку Лявону. Даўно гэта было. Няма ўжо й спадара Луцкевіча.

А і дасёньня ў Лужках нішто не прамаўляе нам пра Элі Пэральмана, чалавека, што адрадзіў мову...

С.Х.

# БЕЛАРУСЫ І ЖЫДЫ Ў ПАРАЛЕЛЬНЫМ ВЫМЯРЭНЬНІ

Андрэй ДЫНЬКО

Беларускае зямляцтва ў Ізраілі мае 25 філіяў у розных гарадах. Яно больш шматлікае, чым грамада жыдоўская тут. Сярод кіраўнікоў філіяў ёсьць людзі з такімі беларускімі прозьвішчамі як Казінец, Камісарчык, Пернікаў. Усё ж большасьць сяброў зямляцтва, як і большасьць тых, што засталіся тут, цяжка назваць жыдамі беларускімі. Беларускіх выбілі ў вайну, а гэтыя прыехалі сюды пасьля вайны, і іхная беларускасьць на большая, чым «адэскасьць» адэскіх ці «крымскасьць» крымскіх. Таму й не трымаюць іх у Беларусі ні магілы дзядоў, ні жахі мінулага. Хоць можа засталіся самыя нашы, самыя нязводныя?

У Віцебску выдаецца цудоўны часопіс «Мішпаха», у якім друкуюцца беларускія жыдоўскія інтэлектуалы ад патрыярха літаратуры на ідыш Гірша Рэлеса да Яфіма Гольбы, што даўно жыве за морам. Рэдакцыя «Мішпахі» знаходзіцца на вуліцы Калгаснай 6, і ў гэтым ёсьць свой цымес.

Беларуская жыдоўская грамадка жыве незаўважным чужому воку паралельным жыцьцём: у Гомелі праводзіцца Фэстываль інтэлектуальных і спартовых гульняў, у Віцебску — Фэстываль клюбаў моладзі «Пурымшпіль» (і, дарэчы, у ягоных рамках конкурсы «міс Эстэр» і «містэр Мардэхай»), Менскае аб'яднаньне жыдоўскай культуры, найдаўнейшая суполка жыдоўскай інтэлігенцыі, папаўняе бібліятэку імя Ізі Харыка, "Алія" рыхтуецца ў 15 ульпанах па вывучэньні габрэйскай, у жаночым клюбе «Тэйглах» навучаюць кашэрнаму харчаваньню (увага: хлеб хлебазаводу нумар 3 гатункаў «Барадзінскі», «Рaўбіцкі», «Сьвіслацкі» кашэрны!). Артадаксальныя юдэі злучаныя ў 16 грамадаў, прагрэсіўныя — у 13, менская грамада прагрэсіўных і выдае самую цікавую — як для чалавека, што есьць некашэрнае, — з жыдоўскіх газэтаў Беларусі — «Мэзузу» накладам 299 ас. «Мэзуза» мае дадаткі: эміграцкі «Бэцаўта—Вместе» і літарацкі «Давар—Слова». У краіне выходзяць таксама месячнік «Друзья Хаверім» накладам 3000, «Авіў-Вясна» накладам 2000 і «Берега» накладам цэлых 5000. І ўсе яны друкуюцца ў «Мэджыку», дзе й незалежныя беларускія выданьні. Мы разам.

Леў Талстой пісаў: «Жыд вечны, ён увасабленьне вечнасьці». І тое, што жыдоў так паменела ў Беларусі, дык гэта з той прычыны, што ў нашым жыцьці і пабеларусу паменела вечнасьці — у гэтым корань нашай бяды. У нас паменела, а ў Ізраілі прыбавілася.

За жыдоў, што займелі свой Ізраіль, і за Ізраіль, што займеў нашых жыдоў, можна пацешыцца. Ізраільскія дэсантнікі й танкісты даюць клятву на гары Масадзе, дзе ў старыя часы стаяла крэпасьць, абаронцы якой зрабілі сабе сьмерць, каб ня трапіць у рукі рымлянаў. Яны клянуцца словамі «Масада болей не ўпадзе ніколі». Наяўнасьць свайго дому Ізраіля, сваёй паўнавартаснай дзяржавы, цалкам зьмяняе нацыянальную ідэнтычнасьць і нават мэнтальнасьць жыдоўскага народу. Ізраільскія жыды — гэта ўжо ня той расьсеяны па сьвеце народ, які, будучы маргіналізаваным сацыяльна і вечна фрустраваным маральна, выплёскваў усю сваю энэргію ў мастацкую творчасьць. Гэта больш не слабасільны народ скрыпачоў, шахматыстаў і артыстаў.

Беларусы ня маюць такой традыцыі, як жыды, і спадзявацца, што беларуская мова паўторыць лёс габрэйскай, не выпадае. Нельга дапускацца, каб яна зьнікла.

І калі б нашы жаўнеры кляліся словамі «Хатынь болей не згарыць», гэта б толькі растроўлівала сьвежыя раны і замацоўвала наш комплекс ахвяры. Іншы шлях чакае нас.

Жыцьцё беларускай культуры для большасьці насельнікаў краіны таксама праходзіць незаўважна, у далёкім паралельным вымярэньні. Толькі жыды жывуць тут ва ўнутранай эміграцыі, ведаючы, што недзе ёсьць айчына, якую яны «адзыскалі», а мы застаемся невядомымі на «нашай не сваёй» зямлі.

Жыды пабудавалі дзяржаву, грунтуючы сваю саматоеснасьць на мінулым. Наша мінулае не такое велічнае. Новая беларуская саматоеснасьць грунтуецца хутчэй на супольнай мэце ў будучыні, на веры ў нашу Новую Зямлю ў Новай Эўропе.

Сьвежы нумар газэты «Берега» паведамляе, што прайшлі перамовы з кіраўнікамі шэрагу калгасаў Беларусі наконт набыцьця збожжа для выпечкі «мацы-шмура», вытворчасьць якой плянуецца пачаць ужо ў студзені ў пушчаным летась у ход цэху па выпечцы мацы, які адпавядае ўсім нормам кашруту. Жывуць! ■

# ЖЫД — ВЕЧНЫ

Алег АБЛАЖЭЙ

Гэтым летам мне давялося гасьцяваць у Польшчы, у дырэктара досыць буйнога музэю. Каб зрабіць яму штось прыемнае, я прапанаваў намаляваць ягоны партрэт — на памятку. Пад час працы, калі я старанна «выточваў» алоўкам старэчы порысты нос, дабрадушныя бляклыя вочы пад набраклымі павекамі, мы, вядома, гаманілі аб розных справах.

Пан дырэктар скардзіўся, што жыцьцё ў Польшчы нялёгкае, рэформы йдуць як па смале — і назваў прычыну: «Rząd mamy żażydzony». І пачаў пералічваць, хто з ураду ёсьць жыд або паўжыдак.

Вочы пана дырэктара ўжо не здаваліся мне такімі добразычлівымі, і той партрэт я так і ня скончыў.

Мой натуршчык быў вельмі набожным чалавекам і вельмі ганарыўся, што ў ліку самых паважаных людзей гораду ён уключаны ў дэлегацыю для вітаньня Яна Паўла II-га (справа была якраз пад час візыту папы). А мне карцела сказаць яму, што ў Польшчы ня толькі ўрад «зажыдзоны», але й сама «Królowa Polski», Матка Боска — таксама жыдоўка. І Стары ды Новы Запавет «зажыдзоныя» пад завязку.

Зрэшты, аб нацыянальнасьці асобаў, якім пакланяюцца, забываюць ня толькі вернікі. Ня менш забаўна выглядаюць антысэміты-камуністы, калі ўзяць пад увагу «пяты пункт» іхнага галоўнага прарока.

Дзе ж усё-ткі галоўная прычына, дзеля якой *іх* так ня любяць? Ясна — антыхрысты, хрыстапрадаўцы... Але вось Сталін — антыхрыст, якога пашукаць! А якая любоў у народных тоўшчах! Фоткі на лабавым шкле, партрэты ў дрогкіх старэчых руках на розных пікетах...

Іншыя яны? — гергечуць на сваёй мове, пэйсы носяць і ўвогуле пішуць кручкамі ды яшчэ справа налева? Але ж вось татары — таксама «ня нашы», бажніцы свае маюць ды выглядаюць не па-славянску — але няма да іх гэткай усеабдымнай няпрыязі. Да таго ж большасьць габрэяў ужо ані на ідыш не гаворац ані ў сынагогу ня ходзяць — зьнешне каторага й не пазнаеш...

Іншасьць, вядома, ёсьць. Служыў я калісь у савецкім войску, у Магілёве-Падольскім, украінскім гарадку, маштабу Паставаў ці Бешанковічаў. Сярод афіцэраў быў толькі адзін габрэй. Але толькі з гэтым маёрам мы маглі ўсмак пагаварыць пра мастацтва. І гэты маёр пазнаёміў мяне зь мясцовым калекцыянерам жывапісу ды графікі, чалавекам настолькі апантаным, што проч сваёй калекцыі меў толькі стол, ложак ды табурэтку. За маю акварэль ён ня меў чым заплаціць і даў мне манаграфію пра Андрэя Рублёва ды рэдкае выданьне Славацкага...

Прычынаў антысэмітызму шмат — і ўсё ж, на маю думку, асноўны рухавік яго — нізкая, подлая зайздрасьць, замяшаная на комплексе непаўнавартасьці. Так, я не чытаў вашага Пастэрнака, пляваў на вашы сымфоніі, я п'ю гарэлку ды гуляю ў карты, затое я — ня жыд пархаты. Мы ня можам дасягнуць іхнага багацьця — апусьцім іх да свайго ўзроўню пагромамі. Мы ня можам абгрунтаваць перавагу сваёй расы — учынім ім генацыд.

Быў там габрэйскі народ абраны Богам ці не — хто ведае. Але тое, што бадай ніякі іншы народ ня можа пахваліцца такой колькасьцю таленавітых людзей ва ўсіх сфэрах дзейнасьці — відавочна. Дык гэта ж несправядліва, нешта тут нячыста — яны проста заціскаюць, абкрадваюць нас, і прычына нашай нэндзы — яны.

Кажуць, каля некаторых японскіх заводаў нібыта стаяць гумовыя пудзілы дырэктараў — праходзіць міма пралетарыят, уваліць па ненавіснай пысе, глядзіш, і палягчэла.

Вось жа ў такой ролі «хлопчыка для біцьця», «ахвярнага казла», першапрычыны ўсіх бедаў Жыд — сапраўды вечны. І калі б яго ня стала — давялося б кагось прызначыць выконваючым ягоныя абавязкі.

... А таго набожнага пана музэйнага дырэктара хацелася б папярэдзіць: будзь, пане, асьцярожным! Сьвяты Пётра, які мае ключы ад райскае брамы, зусім не славянін... ■


Фота Анатоль Кляшчука.

Адзін з апошніх жыдоў у Друі

# АД ВІТАЎТА ДА СТАНІСЛАВА-АЎГУСТА

забіта 300 габраяў... Высноваў ніхто не зрабіў... 10 ліпеня 1648 г. быў днём, чырвоным ад крыві. Казакі цалкам высеклі габрайскае насельніцтва шматлікіх гарадоў і мястэчак на поўдні Рэчы Паспалітае.

Габраі Вялікага Княства параўнальна мала пацярпелі ў 1648 г., бо тут не існавала такога непрымірымага антаганізму, да таго ж тут стаялі войскі, падрыхтаваныя супроць магчымага нападу Маскоўшчыны. Ганебныя ўцёкі паспалітага рушэньня з-пад Пілавіцаў адкрылі Хмяльніцкаму дарогу на захад і поўнач. На мяжы Валыні казацкая армія падзялілася на дзьве часткі. Адна рушыла на Львоў, другая на Княства. Жыхары Берасьця, Пінску і іншых гарадоў брасіліся наўцёкі да Гародні і Вільні. Хто не пасьпеў — згінуў; шматлікія загінулі ў дарозе ад голаду і холаду. Аднак бліскучыя перамогі пачалі зьмяняцца паразамі. Вайна пачала зацягвацца. Ніводны з бакоў ня мог дасягнуць пералому. Хмяльніцкі падаўся за дапамогай да маскоўскага цара. Праз шэсьць гадоў пасьля выбуху на Украіне беларускія габраі адчулі на «сваіх шыях» ня толькі казаччыну, а яшчэ жудасьці ваеннага тэрору маскоўцаў, няхай і не такога вытанчана-садысцкага, як у скуралупаў Хмяльніцкага, — рэгулярнае войска ўсё ж такі, дый цар — «Найцішэйшы».

Адзіны з ваюючых бакоў, ад якога габраі не пацярпелі — швэды, што таксама праляцелі Беларусяй. Вось — эўрапейцы! Габраі акуратна выплочвалі акупантам надзвычайныя ваенныя падаткі.

Маскоўцы таксама ўвязьлі. Бліцкрыгу не атрымалася. Некалькі год панаваньня «братоўправаслаўных» расплюшчыла вочы тым, хто сустракаў іх з хлебам-сольлю. Антынародная, грабежніцкая палітыка царызму ў Беларусі прывяла ў канцы 1658 г. да народнае вайны, што доўжылася да 1661 г.

Стан рэчаў, які адбываўся тады, добра перадаюць сухія лічбы — памеры падаткаў, што клаліся на плечы габрайства, і ня менш красамоўныя фармулёўкі-абгрунтаваньні: 1652 г. — «У цяперашняй патрэбе Рэчы Паспалітай пастанаўляем: на ўсіх жыдоў ВКЛ 30 тыс. зл. польскіх». 1654 г. — «Для раптоўных патрэбаў Рэчы Паспалітай, усім да нямалых цяжараў... 40 тыс. зл. пол.». 1655 г. — «Успазоры раптоўных патрэбаў Рэчы Паспалітай — 30 тыс. зл.». 1659 г. — «Жадая войска нашыя ў заслугах задаволіць... 10 тыс. зл.». 1661 г. — «На ўсіх жыдоў... 12 тыс. зл.». 1667 г. — «На ўсіх жыдоў... 10 тыс. зл.».

Доўгія мірныя перамовы нарэшце скончыліся ў студзені 1667 г. Андрусаўскім мірам.

**1667—1795. Ад Андрусаўскага міру да гібелі Вялікага княства Літоўскага. Заняпад**

Вынікі вайны былі катастрафічныя для дзяржавы, для нацыі; катастрафічныя настолькі, што іх мы адчуваем нават сёньня. Беларускае габрайства ўяўляла сабой ня менш маркотнае відовішча. Парушылася раўнавага між чатырма найстарэйшымі суполкамі — Берасьцем, Вільняй, Гародняй і Пінскам, што пачало выклікаць спрэчкі аб тэрытарыяльных межах іх юрысдыкцыі. Лепшыя рабіны загінулі, а Талмуд-торы пуставалі па некалькі год. Ня стала той кансалідацыі, што існавала да вайны. Нарадзілася апазыцыя старажытным кагальным парадкам, згодна зь якімі індывід бясспрэчна падпарадкоўваўся суполцы.

У 1676 г. Ваад загадаў бясспрэчнае падпарадкаваньне сяброў кагалу старшыне. Страчваючы аўтарытэт у народзе, кагальная старшыня зьвяртаецца па дапамогу ва ўнутрыкагальнай барацьбе да каралеўскіх уладаў.

У выніку неўзабаве ўлады пачалі лічыць, што маюць права ўмяшаньня, калі ім самім будзе патрэбна. Пасаду рабіна неўзабаве можна было купіць у ваяводы ці магната, на тэрыторыі якога быў кагал.

Мяшчане, прывучаныя да крыві за доўгія ваенныя гады, учыняюць у 1680 г. пагром у Берасьці, праз два гады — у Вільні, ды такі моцны, што Яну Сабескаму прыйшлося на яго ўціхаміраваньне дасылаць некалькі харугваў. Увядзеньне ў краіну казацкіх войскаў пад час Паўночнае вайны адчыніла прастору для фармаваньня бандаў, якія кваціліся найперш на жыдоў і іх маёмасьць. Адгалоскам казаччыны сярэдзіны XVII ст. зьявілася Крычаўскае паўстаньне 1740—1744 г. на чале з Вашчылам, у якога, як і ў Хмяльніцкага, да габраяў быў асабісты рахунак.

Магнаты застаюцца галоўнымі абаронцамі габраяў нават у часы найбольшае рэакцыі. Больш таго, калі антыхрысьціянская філязофія Асьветніцтва таксама хутка апанавала розумы шляхты, як у XVI ст. Рэфармацыя, былі выпадкі пераходу магнатаў у юдаізм. Так, Марцін Радзівіл, каронны крайчы, кожную пятніцу ладзіў для юдэяў банкеты і сам стаў юдэям. Сваякі аб'явілі яго вар'ятам.

Пераадольваючы вынікі вайны 1648—1667 г., габраі вымушаны былі рабіць пазыку за пазыкай, звычайна пад забесьпячэньне кагальнаю нерухомасьцю. Так большая частка кагальнае маёмасьці апынулася ў бестэрміновым закладзе. Калі ў 1766 г. прызначаная Соймам камісія прыступіла да скасаваньня пазык, перад ёй прадстала наступная карціна: Віленскі кагал — 5.316 чалавек і 1.722.800 зл. віны, Берасьцейскі, адпаведна — 2.418 і 386.571, Пінскі — 1.277 і 309.140. Тады як штогодныя прыбыткі складалі: Віленскі кагал — 34.000 зл., Берасьцейскі — 31.200, гарадзенскі — 21.000, Пінскі — 37.000 зл. Як дайшло да такога стану? «Крывавы патоп» сярэдзіны XVII ст. — так. Але й непамернасьць падаткаў у выніку самавольства ўладаў: пагалоўны, каранацыйны, на ўтрыманьне каралеўскага двара, з будынкаў (калі разьмяшчаліся на каралеўскае тэрыторыі), за права карыстаньня сынагогамі і могілкамі, за права займець якую-кольвечы кагальную пасаду, на слуг, зборы з лавак, рамёстваў, тавараў, падаткі натурай у каралеўскі скарб, з напояў, дарожны, кірмашны, за пераезд праз масты, з забою скаціны, з валоў і баранаў, адпраўляных на кірмаш, падатак сьвятарству з тых габрайскіх дамоў, якія раней належалі хрысьціянам, і г.д., а яшчэ ўсялякія паборы, якія проста немагчыма было кантраляваць.

Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пры ўсіх сваіх недахопах у параўнаньні з Сасамі быў усё ж патрыётам. З 2-й паловы XVIII ст. краіна на хвалі эканамічнага ўздыму пайшла шляхам рэформаў. Сярод усяго стаяла пытаньне і аб габраях. Скарбовая камісія пад кіраўніцтвам Тадэвуша Чацкага вынесла наступную пастанову: за габраямі прызнаць усе правы грамадзянаў; скасаваць усялякія адрозьненьні ў статусе габраяў ад хрысьціянаў (акрамя рэлігійных); адчыніць для габраяў усе промыслы, акрамя гандлю алькаголем (забарона на 50 год).

Пад час апошняга акту трагедыі — вызвольнага паўстаньня 1794 г. — габраі Вялікага Княства не выказвалі ніякіх сымпатый да патрыётаў: магчыма, яны проста бачылі безнадзейнасьць справы і лічылі за лепшае праяўляць ляяльнасьць у выглядзе розных паслуг войскам Кацярыны. Было б няшчыра абвінавачваць нашых габраеў у здрадзе нацыянальных інтарэсаў, хіба ж яны горшыя дзесяткаў тысячаў шляхты, што прысягала розным агрэсарам?

Затое каронныя габраі дзейнічалі процілегла. Габрайскі полк лёгкае кавалерыі падпалкоўніка Берэка Ясялевіча, гэтага Юды Макавея Рэчы Паспалітай, паказваў цуды гераізму пад час абароны Прагі і амаль цалкам загінуў.

Так беларускія габраі апынуліся пад Расеяй, і пачалася новая гісторыя. ■

# ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА БЕЛАРУСКАГА КІНО

***Нядаўна на ОРТ паказалі аўтарскую вэрсію карціны «Мяне завуць Арлекіна» беларускага рэжысэра Валер'я Рыбарава. За гэта рэжысэр атрымаў афіцыйны ганарар у памеры 54-х расейскіх рублёў (каля 2 даляраў).***

Такое стаўленьне да беларускай культуры. Якасьць копіі таксама выклікала жах. 45 хвілінаў павінна было працягвацца інтэрвію з Рыбаравым і з аўтарам сцэнару Юр'ем Шчакаціхіным, але яго скарацілі да 5 хвілінаў.

Ды самае непрыемнае тое, што гэтак жа ўспрымаюць беларускі кінэматограф і некаторыя суайчыньнікі.

Сп.Валеры ўспамнае, зь якімі цяжкасьцямі пры канцы 70-х ён здымаў свой першы твор — 20-хвілінную карціну «Жывы зрэз»: «Я прынёс на студыю сцэнар. Рэдактар прачытаў першую старонку, маркотна паўтарыў уголас «Заходняя Беларусь», «1946 год», каталіцкія імёны герояў і выйшаў у суседні пакой. Ну ўсё, думаю, сцэнар ня пройдзе. Выходзіць старшыня Дзяржкіно Паўлёнак і кажа: «Какая Западная Белоруссия? Какой Стась? Вам же сказано: действие происходит в сибирской деревне!»

Тое самае і з карцінаю «Чужая бацькаўшчына». Дырэктар студыі «Беларусьфільм» Пашкевіч адразу безапэляцыйна заявіў: «Фільм будзеце здымаць па-за часам і прасторою». Рыбараву давялося доўга тлумачыць Пашкевічу, што немагчыма стварыць фільм паводле Вячаслава Адамчыка па-за часам і прасторою. «Нават краявід сьведчыў бы аб тым, што ўсё адбываецца ў Заходняй Беларусі — лясы, балоты, там-сям гарызонт разразае вежа касьцёлу, вузкія завулкі й чарапічныя дахі дамоў у гарадох...»

Потым узьніклі лінгвістычныя праблемы. «Чужую бацькаўшчыну» меліся здымаць цалкам па-беларуску. Але выканаўцы галоўных роляў па-беларуску маглі гаварыць толькі з паперкі. Уладзімера Гасьцюхіна навучаў размаўляць па-беларуску Анатоль Сідарэвіч (Сідарэвіч таксама здымаўся ў другой паўнамэтражнай карціне Рыбарава, у «Сьведку»). «Лінгвісты» зь Дзяржкіно пераклалі назву фільму на расейскую мову як «Чужая вотчина». Гэты пераклад гучыць, як «Чужой огород» — сказаў пасьля Рыбараў.

І «Чужая бацькаўшчына», і «Сьведка» здымаліся з актыўным удзелам непрафэсійных актораў — жыхароў Дзятлаўшчыны й Парэчча, якія размаўлялі па-мясцоваму. Сцэны здымаліся ў сапраўдных сялянскіх хатах. Асабліва вылучаецца пэрсанаж усіх фільмаў Валер'я — Стась. Гэты чалавек выконваў ролю самога сябе. Станіслаў Пшаўлоцкі быў грузчыкам у Лагойску. Вельмі здаровы, моцны, але выключнай памяркоўнасьці чалавек; увесну ён жыў на вуліцы, бо падлогу ягонае хаты затапляла вадою. Ён пісаў вершы на беларускай мове й чытаў іх грузчыкам. Гэтыя вершы й гучаць у фільмах.



*Бард Зьміцер Бартосік малым здымаўся ў фільме "Чужая Бацькаўшчына"*

Аднойчы Стась прысутнічаў на творчым вечары Максіма Танка. Пасьля таго, як Танк скончыў чытаць свае вершы, Стась узьняўся з крэсла й сказаў: «Ведаеце, мне тут сказалі, што танк прыедзе. Які ж вы танк? Танкетка вы!»

Юры Шчакаціхін, аўтар пачатковага сцэнару «Мяне завуць Арлекіна» плянаваў, што падзеі фільму будуць адбывацца ў Маскве. Але Рыбараў зьняў фільм у Парэччы, мястэчку зь непаўторным заходнебеларускім каларытам. З боку Дзяржкіно адразу ўзьніклі пытаньні: чаму? Што гэта ўсё значыць? Навошта тут Стась? Чаму вершы на беларускай мове? У выніку зь фільму выразалі частку эпізодаў, напрыклад, дыялёг Арлекіна з хіпі, дзе той кажа: «А калі ўсе будуць крычаць «Хайль Гітлер», ты таксама будзеш крычаць?»

«Арлекіна» стаў самай касавай карцінаю беларускага кінэматографу. А «Чужую бацькаўшчыну» ня хочуць заўважаць дагэтуль. Два фільмы, якія Рыбараў ужо пачаў здымаць на «Беларусьфільме», былі закрытыя: «Голас крыві брата твайго» (паводле Адамчыка) і «Ў пошуках бацькі». Беларускі нацыянальны кінэматограф пастаўлены ў такія ўмовы, у якіх нацыянальны матывы хутка зьядуцца да скокаў Лявоніхі, вышытых кашуляў і кабетаў з паставамі балерыны ў нацыянальным адзеньні, праз якое прасьвечвае нэйлёнавая бялізна — як гэта было ў «Людзях на балоце», калі ад Мележа пакінулі толькі «шкілет».

**Раман Мамчыц**

# САРТР І БАВУАР У ЛІТВЕ



*Сартр і Бавуар на здымку Антанаса Суткуса (нар. у 1939) слыннага літоўскага фатографа, журналіста, неаднаразовага старшыні Саюзу фотамастакоў Літвы.*

Францускі культурны цэнтар упершыню экспануе здымкі, што асьвятляюць некалькі дзён з жыцьця францускага пісьменьніка Жан-Поля Сартра (1905—1980) і ягонай жонкі Сымоны дэ Бавуар.

У 1965 годзе нікому не вядомы 26-гадовы фатограф Антанас Суткус, дзякуючы шчасьліваму выпадку, атрымаў рэдкую магчымасьць суправаджаць францускага творцу, які наведваў Савецкі Саюз, у прыватнасьці, Ніду на Курскай касе ў Літве.

Напачатку Віленскі аэрапорт, пасьля Паланга і Коўна.

Ціхая паездка, амаль інкогніта, без сустрэчаў і акцыяў. Адмаўленьне прысутнічае скрозь — ні вочы, ні рухі, ні гэсты, ніпто ня сьведчыць аб кантакце француза з навакольлем, ён знаходзіцца сам у сабе, застаецца за тоўстымі шкельцамі ўласных акуляраў і папяросным дымам. Самотны крук — постаць на тле пясчанай дзюны рушыць за небасхіл, стомлены Сартр прысеў на пясок, здымае абутак, задуменна гледзячы ўдалячынь, паліць, вось хвіліна адпачынку ў кавярні, усьмешка Сымоны дэ Бавуар. Чорна-белыя адбіткі сьветапісу, нібы ілюстрацыі да твораў самога Сартра. Здымкі замаруджаныя, ціхія, нават інтымныя, іхнае сузіраньне патрабуе ад гледача запаволіцца, кожная дэталь і рух патрабуе ўвагі. Няма інсцэнізацыі, гэта жывыя моманты аднаго летняга тыдня.

Жан-Поль Сартр не разумеў, што яго здымаюць, і ў перадапошні вечар спытаўся ў Суткуса, што ён піша: паэзію ці прозу?

**Дзяніс Раманюк**

каляндар





**1774.** Два першыя гады расейскае акупацыі. Пакуль яшчэ нічога не зьмянілася ў штодзённым жыцьці краіны. «Абмежаваны кантынгент» расейскіх войскаў знаходзіцца на тэрыторыі ВКЛ з 1764 году. Дазвол на разьмяшчэньне даў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які ў 1764-м заступіў на пасады Кароны й Княства.

Паводле сучасных азначэньняў, Панятоўскі ў 60-х гадах XVIII ст. памкнуўся правесьці буржуазна-дэмакратычныя рэформы ў Рэчы Паспалітай, даць эканамічныя й палітычныя вольнасьці гарадам, то бок купцам-мяшчанам. А з адваротнага боку — спарадкаваць войска, суды, скарбніцы. Усё разам — умацніць дзяржаву. Гэтыя захады азначалі скарачэньне шляхецкае волі, наступ на магнацкія «дзяржавы ў дзяржаве». Панятоўскі даўмеўся да таго, што ў 1768 годзе ўвёў сьмяротнае пакараньне за забойства прыгоннага халопа!.. Больш за тое, ён распачаў падрыхтоўку рэформы Сэйму і ўрэшце пакваліўся на самае сьвятое: зраўняў у правох з каталікамі некаталіцкае насельніцтва краіны. «Праўдзівыя патрыёты» ня вытрымалі гэткага таптаньня старыны і ў тым жа 1768 годзе ў падольскім мястэчку Бар заснавалі сваю Канфэдэрацыю. Па-сучаснаму кажучы, узьнялі антыўрадавы мяцеж, які цягнуўся аж да 1772 году. Тады войскі Кацярыны II прыйшлі на дапамогу суседняй дзяржаве дзеля «захаваньня канстытуцыйнага ладу». Дапамагчы дапамаглі, а сысьці «забыліся».

Яшчэ ніхто ня ўцяміў, што насамрэч адбылося з краінай. Сучасныя гістарычныя кніжкі даюць мала канкрэтыкі пра паспалітае жыцьцё таго пэрыяду. Ці нашым дасьледнікам нецікава, ці сапраўды быў час зацішша?

Як бы яно ні было, у 1774 годзе жыцьцё працягваецца. Квітнеюць прыватныя і школьныя (клерыкальныя) тэатры. У Нясьвіжы, Слоніме, Гарадні, Вільні ставяцца айчынныя і перакладныя п'есы. П'есы пішуць па-польску і лацінску, але з частымі інтэрмэдыямі беларускамоўнымі ўстаўкамі.

Гарадзенскі тэатар Тызэнгаўзэна пераяжджае ў вёску Гарадніца. Пакуль пераважаюць італьянскія артысты, але праз некалькі гадоў заявяць пра сябе «нашы».

У Жыровіцах мясцовы мастак Шашалевіч скончыў роспіс храму Ўзьнясеньня.

Беларускі шляхціц Караль Князевіч паступае ў Варшаўскую рыцарскую школу. Ён мае багата часу для навукі. Да ягонага першага бою з расейцамі застаецца цэлых 18 гадоў.

**Севярын Квяткоўскі**



*Юзаф Гескі. Кароль Станіслаў Аўгуст*

слоўнік паняцьцяў

Валерка БУЛГАКАЎ

# 15. ПРА АДЗІН ХАРАКТЭРНЫ ПРЫЁМ НАШЫХ НЕПРЫЯЦЕЛЯЎ.

Ня кожны дзень прыносіць нам радасьці. Хутчэй наадварот, міжволі чакаем, што ўсё яшчэ болей пагоршыцца, нешта зусім зруйнуецца. Дзіва што, напагатове нашы непрыяцелі. Тое, чым яны дзень пры дні напружана займаюцца, завецца кастрацыяй нацыянальнага — яго расшчапленьнем, атамізацыяй і ўрэшце па магчымасьці поўнай утылізацыяй, а таксама дбайным захаваньнем нормы кастрацыі.

Але нясоладка прыходзіцца і нашым непрыяцелям. Зямля гарыць у іх пад нагамі — паўсюль ворагі. Афіцыйная прапаганда сур'ёзна заклапочаная пытаньнем, як убясьпечыць *наш сад* ад розных нечаканасьцяў. Адзін зь яе галоўных аргумэнтаў зьмушае наш бедны народ прыслухацца — беларуская апазыцыя (няважна, палітычная ці культурная) наскрозь купленая, ува ўсёй сваёй глыбіннай сутнасьці прадажная. Адпаведна, уся ейная дзейнасьць ня што іншае, як адрабляньне «нячэсна» атрыманых грошай, г.зн. грошай, заробленых ня ўласным мазалём.

Паказальна, што ўпершыню жыцьцё сутыкнула мяне з такім уяўленьнем пра апазыцыйную актыўнасьць тады, калі ніхто ўсур'ёз пра ніякіх «замежных спонсараў» яшчэ не заікаўся. Было гэта ў 1990 годзе, калі ўпершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі адбываліся параўнальна свабодныя выбары ў рэспубліканскі Вярхоўны Савет. Па нашай выбарчай акрузе ў дэпутаты балятаваўся — і, трэба сказаць, пасьпяхова — Пятро Вінцэнтавіч Садоўскі. Каб памагчы гэтаму заслужанаму чалавеку споўніць сваю задуму, мы зь сябрамі выраблялі і распаўсюджвалі саматужныя ўлёткі, іншы агітацыйны матэрыял, а таксама праводзілі гутаркі з насельніцтвам. Акурат пад час адной з такіх гутарак мяне і ашпарыла бы кіпенем пытаньне, кінутае адным укормленым мужыком: «Колькі ж табе, хлопец, за ўсё гэта плацяць?»

Фантазіі нашых непрыяцеляў пра прадажнасьць апазыцыйных ім сілаў існуюць здаўна і маюць свой адваротны бок. Ён палягае ў эксплікацыі сьвядомаснага зьмесьціва — паказвае, якія ўяўленьні сядзяць у непрыяцельскіх галовах пра мэханізмы ўтварэньня сацыяльнай і палітычнай рэчаіснасьці. Вобразу «прадажнага апазыцыянэра» ў іх адпавядае вобраз «дзяржаўнага чалавека», «чалавека на службе», які не прадажны — о не! — проста падкантрольны сыстэме. Яго адданасьць сыстэме, аднак, мае і свой матэрыяльны вымер. «Дзяржаўны чалавек» цікавіцца ня столькі грашыма, колькі магчымымі выгадамі, якія могуць вынікаць зь яго цяперашняга становішча. Гэта й зразумела, бо сыстэма ўладкаваная так, што грошы заведзеныя ў ёй як бы для адводу вачэй, а рэй вядзе нябачная іерархія сувязяў, абумоўленых якраз удала дасягнутым становішчам. Гэтыя сувязі даюць амаль усё — ільготныя крэдыты, бясплатныя кватэры, дачы, лякарствы, пуцёўкі ў беларускія санаторыі для дарослых і аздараўленчыя туры на Захад для маленькіх.

Апрача таго, гэты характэрны прыём нашых непрыяцеляў угрунтаваны на расейскім імпэрыялістычным/савецкім глябалісцкім комплексе таго, што чалавек — разьменная манэта (у спрэчцы пра ўсёмагутнасьць).

Напрыканцы яшчэ адна драбніца. Адна вядомая гомельская сьпявачка ў адной прыватнай гутарцы са мной так апісвала свае злыбеды з «прабіваньнем» беларускамоўнай адукацыі для сваіх дзетак (перадаю толькі сутнасьць): «А загадчыца аддзелу адукацыі мне і кажа: «Вы, бээнфісты, як да ўлады прыйдзеце, то адразу ўсіх будзеце з аўтаматаў страляць». Ці выяўляе гэтая экспрэсіўная фігура сьвядомасьці — безумоўна, з адпаведнай перастаноўкай ці, хутчэй, падстаноўкай «дзейнага суб'екта» — сапраўдны ідэал тых сілаў, якія супрацьстаяць ператварэньню Беларусі ў нармальны эўрапейскі край? ■

# ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

В. Губін, А. Макарэвіч. **Дзе яно, мора Герадота?** — Менск, 1999. — 46 с.: іл.9. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0195-2

Калі ў рукі трапляе новая кніга з паметкай «Для ... школьнага веку», міжволі прыгадваеш, што ты сам чытаў у такія гады. Цікава паназіраць, як зьмяняюцца дзіцячыя чытацкія зацікаўленьні, як паступова выпадаюць з кантэксту, робіцца дзіўнымі і малазразумелымі кнігі, безь якіх тваё дзяцінства проста немагчыма ўявіць. Цяпер большасьць дзетак ня ведае, хто такі Ленін. І патлумачыць ім такую, здавалася б, простую рэч, не абрынуўшы на нямоцныя дзіцячыя галовы гару бэтонна-арматурных пафэштаў неіснуючае рэальнасьці, цалкам немагчыма. Ну, быў такі... Хто? Наўрад ці зразумеюць цябе нараджаныя ўжо пасьля таго, як усе леніны, будзённыя ды іншыя дзяржынскія — на прыкладзе якіх нават з тваіго пакаленьня спрабавалі выхаваць генэрацыю чырвоных тэрмінатараў — назаўжды зьнікілі з кнігарняў. Зьнікілі адразу па развале дзяржавы, створанай калісьці Жалезным Фэліксам і ягонымі ня менш жалезнымі таварышамі. Зьнікілі, вызваліўшы, як кажуць тавараведы, «плошчадзь» пад вострасюжэтна-мяккапаперныя выданьні. Зьнікілі, так і не трансфармаваўшыся ў вітаўтаў, астроскіх, радзівілаў...

Аднак, любыя нараканьні на малую колькасьць і жахлівую якасьць сёньняшняе беларускае дзіцячае літаратуры будуць нагадваць сварку з цырульнікам зь вядомае габрэйскае показкі. Можа, таму кожнае, збольшага нядрэннае, выданьне для дзяцей спачатку ўважліва вывучаюць дарослыя дзядзькі і цёткі, ажно млеючы ад прадчуваньня, як дзеткам будзе цікава яе чытаць. Вось, напрыклад, кніжка «Дзе яно, мора Герадота?», складзеная В.Губіным ды А.Макарэвічам (не, не тымі Губіным і Макарэвічам, пра якіх мы — аточаныя з усіх бакоў шапікамі, FM-станцыямі, суседзкімі магнітафонамі, канцэртовымі залямі, адкуль цячэ-ліецца на нас расейская папса — адразу падумалі). Аднак, калі б тыя музыкі і надумаліся супрацоўнічаць, плёну сумеснае творчасьці было б далёка да тых вышыняў стылёвае арыгінальнасьці, якіх дасягнулі іх беларускія цёзкі: «Наш абавязак — захаваць дзеля будучых пакаленьняў унікальныя і непаўторныя куткі прыроды, беражліва асвойваць новыя тэрыторыі, не парушаць пры гэтым экалягічнай раўнавагі і эстэтычнай цэннасьці ляндшафтаў, натуральнае аблічча якіх складалася на працягу цэлых геалягічных эпох».

Пачытайце гэта свайму дзіцёнку («малодшага школьнага веку», пажадана) на ноч — ён у вас абавязкова спытаецца: «Тата, а з кім ты цяпер размаўляў?» — у лепшым выпадку. А можа і ўвогуле не заснуць, наслухаўшыся пра «гідратэхнічнае будаўніцтва», «пэрыфэрыі цыклону», «экалягічны маніторынг», «біялякацыйныя палі» ды іншыя «сыстэмы актыўных разломаў», што адзін на адным сядзяць у кожным артыкуле (а кніга складаецца з паасобных тэматычных артыкулаў).

Вядома, нельга абмяжоўваць дзіцячую літаратуру ідыёцкім сюсюканьнем, аднак такія кнігі — складзеныя з груваcткіх інфармацыйна-тэрміналягічных блёкаў, перагружаныя датамі і лічбамі — проста зьнішчаюць у дзяцей жаданьне чытаць. Было б ня так прыкра, калі б кніга нічога не ўяўляла зь сябе ў інфарматыўным пляне — але ж там столькі проста-ткі унікальных прыродазнаўчых, гістарычных, нават літаратурных зьвестак, якія трэ было толькі патрэбным чынам апрацаваць, пераарыентаваць іх на дзіцячае ўспрыманьне.

Напрыклад, адкуль яшчэ мы даведаліся б, што сорак мільёнаў гадоў таму на Лагойшчыну звалілася мэтэарыт? (Такім чынам, Армагедон, пра неабходнасьць якога праз усю мінулую зіму казаў мясцовы кінапракат, ужо, уласна, адбыўся). Або што на тэрыторыі сёньняшняга менскага парку імя Горкага знаходзілася ў мінулым стагодзьдзі самая глыбокая ў Расейскай імпэрыі артэзіянская сьвідравіна?..

Карацей кажучы, дарослыя дзядзькі і цёткі, калі хочаце, каб дзеткі вашыя ведалі больш, чым вы ў іхным веку, бяжыце як найхутчэй у бліжэйшую кнігарню, купляйце там кніжку В.Губіна ды А.Макарэвіча «Дзе яно, мора Герадота?» і чытайце яе. А пасьля дзеткам пераказвайце.

Андрэй Скурко




*«Наша Ніва» ў сваёй сэрыі «Бібліятэка «Вострая Брама» выдала ў Вільні адзінаццатую кнігу Адама Глёбуса — зборнік афарызмаў, камэнтароў да цытатаў, эрэгерыяў і максымаў «Кантамінацыі».*

**ПРА НАБЫЦЦЁ МОЖНА ДАВЕДАЦЦА ПРАЗ ТЭЛЕФОН У МЕНСКУ 227-78-92**

беларускі гіт-парад

## Беларуская бардаўская музыка

| | | |
|---|---|---|
| 1. Данчык | Калядныя песьні | БМА |
| 2. Андрэй Мельнікаў | Гэта МЫ! | ЗБС |
| 3. Сяржук Сокалаў-Воюш | Песьні касінераў | Ковчег |
| 4. Ален | Балахоўскія песьні | БМА |
| 5. Вольга Цярэшчанка | Выбраныя песьні | Літ.-Маст.суполка |
| 6. Віктар Шалкевіч | Правінцыя | БМА |
| 7. Зьміцер Бартосік | Да пабачэньня... | Літ.-Маст.суполка |
| 8. Сяржук Мінскевіч | Жахі | Літ.-Маст.суполка |
| 9. Уладзімер Клімовіч | Дзеці вятроў | Тон-рэкардз |
| 10. Яўген Савельеў | Любоў | БМА |

*Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць кожны апошні чацьвер месяца з 10.00 і кожную нядзелю з 13.30 на хвалях «Радыё-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz)*

*Штомесяц да 20-га дасылайце свае варыянты гіт-параду на адрас: 220085, Менск, а/с 5, і Вы возьмеце ўдзел у конкурсе, пераможцы якога атрымаюць прызы.*

*Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна: у Менску ў кіёску «Карона» (каля крамы «Музыка»); на Варвашэні 8 на сядзібе БНФ, у Маладэчне ў кіёску ТБМ (на чыгуначным вакзале); т. 53 769 Алесь; у Гомелі ў краме Audio-box (Першамайская 23), унівэрмагу «Гомель»; у Віцебску ў кіёсках фірмы «Саюз»; у Сьветлагорску ў кіёску 93 (р-н рэстарану «Пралеска»); тэл. (02342) 27 815 Сяржук; у Воршы ў краме «Пілот» (Леніна 16, тэл. 44 893); у Магілёве тэл. (0222) 25 57 85, у Горадні штопанядзелак і сераду па адрасе: К.Маркса 11, т.(0152) 72 11 83; у Слоніме ў краме «Румб» (Чырвонаармейская, 18, інтэрнат МПМК-164), па тэл.: 31-493, Алесь; у Баранавічах тэл. (0163) 41 24 30, 41 10 46 (Алесь, Валадзей); у Мар'інай Горцы (213) 45 962; у Берасьці па тэл.(0162) 20 20 87, 26 48 31, 22 78 11; у Беластоку (Польшча) (85) 661 64 00 (Вячаслаў) — і праз сыстэму «Касэты-поштай» (а/с 5, Менск, 220085, тэл. (017) 249 08 88 Віталь, E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by).*

кніжкі — поштай

## ЗАТ «Сотвар»

1. **Веткаўскі музэй народнай творчасьці** — 860 т.
2. Л.Васюковіч, М.Яленскі. **Мэтодыка выкладаньня беларускай мовы ў сярэдняй школе** — 285 т.
3. А.Вініцкі. **Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне** — 45 т.
4. В.Адамчык. **Разьвітальная аповесьць** — 240 т.
5. В.Целеш. **Гарады Беларусі на старых паштоўках** — 1100 т.
6. **Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы** — 44 т.
7. А.Дзні. **Гісторыя эканамічнай думкі** — 107 т.
8. З.Дудзюк. **Палоньнікі жыцьця** — 100 т.
9. **Беларускі народны соньнік** — 65 т.
10. Г.Бялоўскі. **Тэхнічныя сродкі навучаньня і мэтодыка іх прымяненьня** — 130 т.
11. В.Рагуля. **Успаміны** — 39 т.
12. У.Касько. **Сьвятло далёкай зоркі** — 325 т.
13. У.Неўдах. **Беларуская арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу** — 1090 т.
14. Е.Мерачыцкі. **Сьветлым ценем Адама Міцкевіча** — 39 т.
15. **Літаратурная Гарадзеншчына** — 50 т.
16. **Новы Запавет. Псалтыр** — 455 т.
17. А.Пушкін. **Выбраныя творы** — 935 т.
18. І.Саверчанка. **Кніжна-пісьмовая культура Беларусі** — 650 т.
19. Т.Процька. **Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну** — 39 т.
20. У.Ліпскі. **Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод** — 105 т.
21. **Шасьцімоўны слоўнік** — 195 т.
22. М.Чарняўскі. **Прaвадыр крылатых вершнікаў** — 195 т.
23. Янка Запруднік. **Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях** — 325 т.
24. Янка Купала. **Поўны збор твораў. Т. 5:** Вершы, пераклады 1930-1942 — 180 т.
25. Я.Найдзюк, І.Касяк. **Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі** — 220 т.
26. М.Ермаловіч. **Старажытная Беларусь. Віленскі пэрыяд** — 200 т.
27. С.Станкевіч. **Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР** — 100 т.
28. Я.Станкевіч. **Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак** — 100 т.
29. Бордович А., Гируцкий А., Чернышова Л. **Сопоставительный курс русского и белорусского языков** — 615 т.
30. Франц Кушаль. **Спробы стварэньня беларускага войска** — 715 т.
31. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 5. Сшытак 2(9) — 650 т.
32. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 5. Сшытак 1(8) — 650 т.
33. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 4. Сшытак 1-2 (6-7) — 585 т.
34. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 2. Сшытак 2 — 585 тыс.
35. **Беларускі гістарычны агляд.** Том 3. Сшытак 1 — 585 тыс.
36. П.Брунэль, К.Пішуа, А.-М.Русо. **Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?** — 65 т.
37. **Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры.** (Вясна-98) — 390 т.
38. І.Бабкоў. **Герой вайны за празрыстасьць** — 91 т.
39. В.Акудовіч. **Мяне няма** — 91 т.
40. Ю.Барысевіч. **Цела і тэкст** — 91 т.
41. **Кастусь Каліноўскі** ("Беларускі кнігазбор") — 806 т.
42. **Ян Баршчэўскі** ("Беларускі кнігазбор") — 806 т.
43. Часопіс **ARCHE**, нумары «Постмадэрнізм», «Вялікая айчынная вайна», «Кабеты», «Паталёгіі грамадзтва» — 690 т.
44. Л.Геніюш. **Вершы** — 455 т.
45. Ж.-Б.Дзюрасэль. **Эўропа з 1815 году да нашых дзён** — 260 т.
46. А.Каўка. **Будам жыць!** — 260 т.
47. **Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі** (Каталёг) — 325 т.
48. Мэры Сьцюарт. **Людвіг і зорны конь:** Казкі для дзяцей. (Пер. з ангельскай) — 130 т.
49. А.Лукашук. **Філістовіч: Вяртаньне нацыяналіста** — 130 т.
50. С.Дубавец. **Русская книга** — 195 т.
51. Л.Юрэвіч. **Камэнтары** — 390 т.
52. В.Супрун. **Жыць для Беларусі** — 390 т.
53. Б.М.Фэйган. **Уводзіны ў археалёгію** — 65 т.
54. **Дэмакратычная апазыцыя Беларусі** — 572 т.

***Кнігі можна атрымаць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым перакazам на рахунак ЗАТ "Сотвар" №3012000000195 у філіі 506 ААБ "Беларусбанк", код 809. 220131, Менск, Шырокая 56.***

***У графе "Для пісьмовага паведамленьня" напішыце, якую кніжку Вы замаўляеце.***

***Для допісаў: 220131, Менск, Шырокая 56.***

***Менчукі! Зьвяртайцеся па тэл.: 228-45-88, факс: 228-45-87.***

***Каталёг можна атрымаць, патэлефанаваўшы ці напісаўшы.***

***Увага! Выдавецтвы могуць падымаць кошты на кнігі. Сачыце за рэклямай!***

новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Я.Брыль. Запаветнае.** Выбраныя творы. — Менск: Беллітфонд, 1999. — 442 с. — Наклад 4000 ас. ISBN 985-6576-04-0

*Прэзэнтацыйная кніжка «Беларускага кнігазбору». Прызначаная для калекцыянтаў, для тых, хто ня мае Брылёўскага шматтомніка, і хто праз школьную «не-навуку» не чытаў дзядзьку Янку. Я кніжку купіў.*

**П.Крэнь. Бывай, Яршоўка:** Успаміны, вершы/Прадмова Васіля Быкава. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 224 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-59-9

*Адна з тых кніжак, што прадстаўляюць беларускую сытуацыю XX ст. Успаміны і факты, складзеныя ў адно цэлае. Беларус, царскі, затым белы афіцэр, вярнуўся па грамадзянскай вайне на радзіму, у Заходнюю Беларусь, браў актыўны ўдзел у нацыянальным жыцьці, грамадовец, пад акупацыяй — культурніцкі «калябарант», па вайне сядзеў, памёр ад ГУЛАГаўскіх хваробаў.*

**Мікола Вінграноўскі. Украінскі прэлюд:** Вершы. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 142 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-6318-44-0

*Клясыка ўкраінскай шасьцідзясятніцкай паэзіі.*

**У.Высоцкі. Я не падману:** Вершы. Пераклад Міхася Булавацкага. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 128 с. — Наклад 1000 ас. ISNB 985-6318-60-2

*"Зборнік зьмяшчае арыгінальны і пераклады 28 твораў Уладзімера Высоцкага. "...Памарудзьце, коні шпаркія, агністыя!/ Хай бізун будзе марна трымцець!/ Але ж вось трапілі мне коні наравістыя — / І дажыць не пасьпею, і дапець не пасьпець". Як каму, а мне цікава чытаць такога кшталту практыкаваньні. Прынамсі, удасканальваеш уласную мову.*

**В.Гардзей. Межань:** Вершы. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 72 с. Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-48-3

*У зборніку моцна адчуваецца «сум імпрэсій неўтаймоўных, горыч сімвалаў сьляпых». На аматара.*

**В.Кунцэвіч. Горкая спакуса:** Вершы. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 176 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-51-3

*"Хай бы добрыя намеры/ Бог наклаў табе за дзьверы.../ Каб пазналася з самотай/ Што бадзялася за плотам". Зборнік дае бязьмежныя магчымасьці для крытыкаў-пачаткоўцаў. Такса ма можа быць добрым матар'ялам для нязлосных мастакоўкарыкатурыстаў.*

**Г.Сутула. След на вечным гасьцінцы:** Імпрэсіі, вершы. — Менск: Беларускі Кнігазбор, 1999. — 78 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-50-5

*"Я хлебу і полю/ Шчырае дзякуй/ Скажу, пакланюся нізка/ Квітнеі Беларусь, Жывi Беларусь!/ Долі і шчасьця калыска". Ну, што адказаць? – Жыве! Ня ведаю, як для аматараў паэзіі, але для "аматараў роднага слова" зборнік вельмі прыдатны.*

Квят.

# ЖЫЦЬЦЁ МАСОНА ЦЫПЯРОВІЧА

Яфім Абрамавіч Цыпяровіч працаваў інжынэрам, але сярод сваякоў і блізкіх быў болей вядомы як масон.

Вяртаючыся з працы дамоў, Яфім Абрамавіч заўсёды заходзіў у «Гастраном». Ён азіраў новыя кошты на цэтліках і заўсёды незадаволена круціў галавою. І пры гэтым нядобра пасьміхаўся. Ён быў вялікім масонам, гэты Цыпяровіч.

Удома ён пераапранаўся з чыстага ў цёплае і сядаў есьці тое, што ставіла на стол ягоная жонка Фрыда Майсееўна, таксама масонка. Вячэраў ён без гарэлкі. І рабіў гэта наўмысна. Ён знарок не купляў гарэлкі, каб суседзям-немасонам болей заставалася. Яны ж аб тым, што іх спойваюць, не здагадваліся і кажан вечар набіраліся. Такі то быў вераломны масон, гэты Цыпяровіч.

Павячэраўшы, Цыпяровіч тэлефанаваў дзецям. Яны таксама былі масонамі і масонілі, як маглі, у вольны ад працы час, але на жыцьцё так і так не ставала, бо адзін зь іх быў студэнтам, а каля ног другога ўжо поўзаў маленькі масончык Грыша, радасьць дзядулі Цыпяровіча і надзея сусьветнага масонства.

Раз-пораз з суседняга пад'езду прыходзіў да Цыпяровіча закарэлы масон Глянцман, які надоечы, у мэтах кансьпірацыі, узяў жончына прозьвішча Фінкельштэйн. Глянцман піў з Цыпяровічам гарбату і жаліўся на пяты пункт сваёй жонкі. Яна была не масонкай, а беларускай і хацела ў Ізраэль. А Глянцман у Ізраэль не хацеў. Ён хацеў, каб яму далі спакойна памерці там, дзе ён прамасоніў усё жыцьцё.

Яны пілі гарбату і гралі ў шахматы. Потым Глянцман-Фінкельштэйн выпаўзаў у сваё масонскае кубло ў суседні пад'езд, а Яфім Абрамавіч клаўся ў ложак і, каб лепей спалася, браў «Вячорку» з крыжасловам. Адгадаўшы пару словаў, ён адкладаў газэту і гасіў сьвятло над сабой і Фрыдай Майсееўнай, змасанелай за дзень так, што ногі не трымалі.

Ён ляжаў, як маленькае слова па гарызанталі, але не засынаў адразу, а па чымсьці ўздыхаў. Па чым ён уздыхаў, ніхто ня ведаў. Магчыма, па тым, што аніяк не выходзіць у яго схаваць сваю этнічную прыналежнасьць, і ўсе ведалі, што ён масон, а можа, і проста так — ад пражытага жыцьця. Хто ведае? Ён быў пажылым дасьведчаным масонам і ўмеў уздыхаць потайкі.

**Віктар Шэндэровіч**

## паштовая скрынка

**Максу К.** зь Менску. *Такія творы, як Вашы, не ўдаюцца не таму, што ў Вас ёсьць праблемы з тэхнікай пісьма. І якой парады Вы ад нас чакаеце? Проста мабыць няма адпаведнай беларускай рэчаіснасьці. Больш: стварэньне беларускай літаратуры сёньня — гэта найперш стварэньне беларускай рэчаіснасьці. Калі будзе рэальнасьць — палітыка, мастацкае жыцьцё, урбанізм — будуць і творы.*

**Ірыне Дз.** з Жлобіна. *А Вы не глядзіце расейскае ТВ. Лепш год сядзець на хлебе й чаі і сабраць грошай на спадарожнікавую антэну, чым іх глядзець.*

**Алене Я.** *Кожны пераклад мусіць быць нечым матываваны. Пэўныя творы матывуюць сябе самі — арыгінальнымі думкамі або сюжэтам, ці, скажам, тым, што пастаўленыя да юбілею аўтара. А каб матываваць публікацыю Вашага перакладу Гесэ, спатрэбіўся б «суправаджальны» твор, які б уводзіў Гесавы думкі ў кантэкст нашага часу, нашай сытуацыі, нашай газэты.*






**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## Наша Ніва 90 гадоў таму

### Прымаецца падпіска на 1910 год на першую беларускую газэту з рысункамі «НАША НІВА»



«Наша Ніва» паставіла сабе мэту будзіць у беларусаў пачуцьцё чалавека і грамадзяніна, голасна гаварыць аб яго патрэбах і правох.

«Наша Ніва» ўсе новыя думскія законы, каторыя датыкаюць Беларусі, разьбірае і ацэнівае жывымі прыкладамі з жыцьця Беларускага краю.

«Наша Ніва» тлумачыць сваім чытацелям усё, што робіцца на цэлым сьвеце.

«Наша Ніва» друкуе практычныя гутаркі аб гаспадарцы, тлумачыць, як нарыхтаваць розныя культурныя справы (каапэрацыі, сельскія банчкі, бібліятэкі і інш.).

«Наша Ніва» ў «Паштовай Скрынцы» дае адказы на ўсе пытаньні, тлумачыць законы, паказывае добрыя кніжкі.

«Наша Ніва» каштуе зь перасылкай і дастаўкай да хаты на 1 год — 2 руб. 50 кап.; на 1/2 году — 1 р. 25 кап.; на 3 мес. — 65 кап., на 1 мес. — 25 кап. За граніцу на 1 год — 4 р., на 1/2 года — 2 руб.

Гадавыя падпісчыкі, каторыя заплацяць грошы, з гары атрымаюць дарма Каляндар «Нашае Нівы» на 1910 год, а за прыплату 20 капеек Зборнік беларускіх народных песень з нотамі, сабраных А.Грыневічам.

**Рэдактар-выдаўца А.Уласаў**

## прыватныя абвесткі



### ВІТАНЬНІ

**Татка мой родны!** З 50-годзьдзем цябе! Дай Божа моцы на ўсе справы твае. Цімох Ганка

**Віншуем** з Днём народзінаў **Аленку Васілевіч** зь беларускага гуманітарнага ліцэю. Партызаны

**Аленка Васілевіч!** Віншуем з Днём народзінаў, жадаем бліжэй пазнаёміцца. КГБ

**Аленка В.!** Віншую! Жадаю! Ваяр нябачнага Беларускага Народнага Фронту

**Віншую Натальку Базылевіч** з Днём народзінаў яс сястры Аленкі! Каін, Абэль

**Дарагая суседка Ленка!** Віншую цябе з Днём народзінаў! Заставайся такой жа маладой і прыгожай! Няхай шчасьце і каханьне заўсёды будуць тваімі спадарожнікамі! Наста

**Прывітаньне** ўсім БЕЛАРУСАМ, асабліва Ганьне ды Андрусю, маім сябрам зь Менску. Раман з Салігорску

### ЖЫТЛО

**Мяняю 1-пакаёвую** новую кватэру 19/37 кв.м 4/5 пав. дому ў Віцебску на кватэру ў Менску, Берасьці, Горадні, Гомелі, Магілёве. 210001, Віцебск-1, а/с 31, Алене

Мяняю 2-пакаёвую кватэру 34/53 кв.м 1/3 пав. дому + лецішча ў Саратаве на кватэру ў любым горадзе Беларусі. 210015, Віцебск-15, а/с 34

### ІДЭІ

**Падтрымка ТБМ** — справа гонару кожнага сьвядомага грамадзяніна Беларусі. Наш разьліковы рахунак — № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанку, код 764. Прыватныя асобы могуць пераказаць грошы праз любое аддзяленьне «Беларусбанку» з прыпіскай: «Ахвяраваньні на дзейнасьць ТБМ». Сакратарыят ТБМ

**Беларус!** Далучайся да дзейнасьці навукова-асьветнага таварыства імя К.Каліноўскага. Лістуйце: 224020, Берасьце-20, а/с 19

**Шьвечіку.** Паліталёгія не дэмагогія, паліталёгія — навука. Наталька Базылевіч

**Ня можа быць** добрым палітыкам той, хто не зьяўляецца сапраўднай маральнай асобай. Тамазый

**Беларус!** Змагайся за Радзіму словам і справай! Ня будзь быдлам! Жыве Беларусь! Алесь Загорскі

**Ліцьвін,** далучайся да сваіх! Разам мы адродзім ВКЛ, нашу Бацькаўшчыну, наш лад

**Pryjšoŭ čas** źbirać kamiani. Adrodzim našu Baćkaŭščynu VKL!

**Не забівай**, хіба што непрыяцеля, які наступае на згубу табе

**Не давайце сьвятога сабакам** і ня кідайце пэрлаў вашых перад сьвіньнямі. Новы Запавет

**Мы зрабілі** «Марш Свабоды»! Стань побач з намі! Белы Легіён: пэйджэр 278-11-01, аб. 4979

Калі Вы ня ведаеце, што дзеецца ў БНР, чытайце орган Народнага сакратарыяту Рэспублікі газэту **«Радавая Беларусь»**. Ад Вас — 50 гр. (50 000 р.) і капэрта з маркаю. 220030, а/с 169

**«Голас Краю»** — газэта краёвага нацыяналістычнага руху. Гэта наш адказ ворагам Беларусі. Няхай наш голас будзе пачуты, інакш — дэградацыя і нацыянальная сьмерць!

**Няўжо для БНФ** надыходзяць сівыя вячоркі?

**Дапамагу вярнуць мужа**, прываражыць каханага, пазьбегнуць разводу, здыму сурокі, насланьнё. Гарантыя 100%. Капэрта, купон б/а. 210001, Віцебск-1, а/с 39, бабулі Іне

**Спосабы нарошчваньня** цягліцаў бяз «хіміі» і трэнажораў, зьніжэньня вагі, павелічэньня росту, адбельваньня зубоў, аднаўленьня зроку і шмат іншага. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель-12, а/с 143

### КАНТАКТЫ

**Шукаю кантактаў з славянскімі язычнікамі**. Хвала старажытным славянскім Багам! 225710, Пінск-1, а/с 31

**Шукаю аднадумцаў з паганскім сьветапоглядам**. Хвала старажытным беларускім Багам! 225710, Пінск-4, вул. 1 Мая, 113-2

**Aleś Barbarjan** зь Менску ды «Слова Нацыі», дзе вы? Адгукніцеся!

**Досыць прывабная жанчына** будзе рада знаёмству з адзінокім мужчынам 43—53 гадоў, пажадана з вышэйшай адукацыяй. 220053, Менск, а/с 191

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў у вайсковай ці міліцэйскай форме. А/с 78, 220141, Менск

**Пасьпяховы бізнэсмэн** (30/176) з кватэрай у Менску пазнаёміцца для стварэньня сям'і зь дзяўчынай. Адкажу ўсім, укладзіце капэрту з адрасам. 210015, Віцебск-15, а/с 34, Аляксандар

### КНІГІ

**Набуду «Нарысы аб гісторыі Беларусі»**. Дзьве часткі. Т.: 272-86-45. Віталь

**Набуду першы нумар часопісу «Сотвар»** ды іншыя выданьні па паганстве. 225710, Пінск-4, вул. 1 Мая, 113-2

**Прадаю 10 тамоў Бальзака, 3 тамы Пушкіна**. Менск, Каржанеўскага, 1/1-332, т.: 277-49-57

**Вельмі танна прадаю** цудоўныя і вельмі патрэбныя ўсім кнігі і часопісы з хатняй бібліятэкі, у добрым стане, на розныя тэмы. Пазначце тэматыку, укладзіце капэрту — вышлю каталёг. 210001, Віцебск-1, а/с 39, Іне

**Бясплатна вышлем** Біблію, Дзіцячую Біблію, хрысьціянскія касэты. Капэрта, купон б/а. 210021, Віцебск-21, а/с 21

### КУПЛЮ

**Набуду бел-чырвона-белыя сьцягі**, нашыўкі ў выглядзе Пагоні. Т.: 272-86-45, Віталь, 220117, а/с 124

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

*# да 20 словаў – **50 000** руб.,*
*# звыш 20 словаў – **70 000** руб.;*
*# па-мастацку афармленая аб'ява – **20 000** руб. за 1 кв. см;*
*# па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету – ад **40 000** руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі – зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*
На зваротным баку бланка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3101. 6 палос фарматам A2. Нумар падпісаны ў друк 19:38, 05.12.1999 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6240. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарскі рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская, 19/36
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12